PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (1943) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 8 ЖНІЎНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## СЕНАЖАЦЬ - ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР

Калісьці на вёсцы найцяжэйшай працай у гаспадарцы лічылі сенакос і жніва. Праўда, усё рабілі ўручную. Найважнейшай прыладай у руках селяніна падчас сенажаці была каса. Траву касілі не дзень і не два, а некалькі тыдняў. Лугі беразоўцаў былі распаложаны далёка ад вёскі, амаль кіламетраў пяць, каля Ягаднікаў. Да сенажаці рыхтаваліся, як да свята якога: вопратку чысцілі, мылі кашулі, рыхтавалі косы, граблі. Шыкавалі вазы, каб ціха хадзілі. Колы мачылі ў вадзе, каб, не дай Бог, у дарозе абруч не зляцеў.

Сенакос пачынаўся пасля Святога Яна. На досвітку з пасцелі зрываўся мужык, выходзіў на панадворак і, гледзячы на неба, ўголас думаў: "Якое надвор'е сёння Бог нясе? Тыдняў два, няхай пагода стаіць. Дай, Госпадзе наш, без клопатаў выкасіць і сена дадому звезці". На суседа гукаў тады, што пара ўжо ў дарогу ісці. Сяляне забіралі косы, граблі. Кожны нёс за плячыма клуначак з ядой. А што ж у ім было? Луста сухога хлеба і сала кавалак, некалькі яек ды бутэлька малака. А ў каго яго не было, дык бутэлька вады. Праз некалькі вёсак ішлі мужыкі. Рагаталі, смяяліся, між сабой жартавалі. Спаць ім ужо адхацелася, а жанатыя нават пра цеплыню жаночага цела забылі. Вядома, прыемна ісці грамадой. А хто зранку меў ахвоту спяваць, песню, бывала, зацягне: "Ой пайду я, па-над лугам". Спеў зранку вакол нясецца, далёка чуваць. Не адзін у ваколіцы скажа тады: "Мужыкі з Беразова на сенажаць ужо пайшлі". Так, як у нас спявалі, ніхто не ўмеў. Вось так з жартамі і смехам дарога падавалася нясумнай. На лугах пачынаўся працавіты дзень. Да спеваў птушак дадаваліся звон касы і гоман людскіх галасоў. Лугі ажывалі. Чуваць толькі "шах, шах, шах". Гэта голас касы, якая пад мужыцкай сілай з размахам ляціць наперад. І трава роўным пакосам кладзецца ўздоўж луга. Быццам бы хтосьці паклаў яе пад шнур. А побач, як дзве каляіны, ад ног мужыцкіх застаюцца сляды. Час да часу мужык становіца, выцірае пот, вострыць касу, на неба паглядае ці далёка яшчэ да поўдня. Хаця прытаміўся, але зноў бярэцца за працу, бо калі ўжо моцна прыпячэ, толькі тады косу пад корч схавае і сам крыху адпачне. Потым касу трэба выклепаць, крыху паесці, наведаць суседа і паглядзець, ці не больш выкасіў ён. А калі сонейка паслабее, зноў бярэцца за касу і косіць, аж да змроку. А вечарам дамоў. Пехатою дахаты. Зноў жарты і смех. І песня ляціць праз лугі і палі. Стомы ніхто не адчувае. Не адзін такі дзень праляціць у сенажаць. Не скосіш рукамі за дзень, хаця да працы мужык упарты. Што рабіць? Такі лёс мужыку быў наканаваны ў гэты час.

А калі ўжо травы накосяць і Бог надвор'е пашле каб сушыць сена, тады цэлай сям'ёй едуць на луг разбіваць пакосы, уручную варочаць. Пад вечар сена зграбаюць, а нанач у капіцы кладуць. А на наступны дзень зноў трэба яго раскідаць і сушыць. Так навокал кожны дзень тая ж сама работа і была. А калі сена падсохне як след, тады дадому пара забіраць. Воз таксама трэба ўмець наладзіць. Дарога далёкая, з калдобінамі. Нярaз, як прывіды, дагары нагамі на ёй тырчалі перакуленыя вазы. А хто ўмела накладзе сена, аскубае, вяроўкай прывяжа, дадому так і давязе. Нічога, што возік вузкі і скрыпіць. Памаленьку конік ступае, манатонна паўтараецца скрып, дадому штораз бліжэй. Так усё складна рабілася, калі стаяла прыгожае надвор'е. Інакш сенажаць выглядала, калі ішлі дажджы. Тады працы дадавалася ўдвая. Дзе вокам не кінеш, поўна збіралася вады. Кожная далінка, кожны раўчук запаўняліся вадою. На вёсцы гаварылі: "Заўсёды так было мужыку. Не падае дзе просяць, а там, дзе косяць". Тады жанчына, бяры ў зубы саян і цягай сена а то і траву на сухі ўзгорак. Сенажаць пры дажджлівым надвор'і магла і да жніва цягнуцца. Такая то праца ў селяніна была.

Маладыя цяпер не паверaць, а яшчэ насмяюцца. А як жа паверыць? Не паверыў бы і той, што даўно ўжо памёр. На сенажаць ты яго цяпер завядзі, то не пазнае нашых лугоў. Павярнулася ўсё дном дагары. Трава па пояс, па якой не прайсці. Асушылі балоты, пакапалі равы, зрабілі дарогу, лугі падзялілі. Маладыя не ведаюць ужо назваў паасобных лугоў. Каму гэта патрэбна? Спеў птушак прыціх. Няма ўжо той даўнейшай красы. Як бы ўсё аджыло.

Інакш сенакос выглядае цяпер. На лугах не чуваць ужо гукаў звонкай касы, толькі галасны грукат машын. Пехатою не ідуць на лугі мужыкі. Песня прапала, бо маладыя не ўмеюць спяваць. Успаміны адны засталіся. Аж дзіўна, як усё змянілася. Не ведаеш, браток, калі пачынаюць касіць. Не хочучы, часам пачуеш, што Сцяпан паехаў ужо касіць траву. І так, памаўчаўшы, падумаеш сабе: "І лугі касіць пачалі?" Так гэта цяпер павялося ў нас. Сядзе на трактар, касілку зачэпіць і гайда на луг. Можна і не заўважыць, калі сена сусед забярэ. А косяць цяпер як! Спякота ўжо не страшная, і пот не цячэ. Уручную цягнуць касу не трэба. Трактар лётае быстра, здаецца сама трава на зямлю ад страху кладзецца. За гадзіну-дзве ўсё пакотам ляжыць. І сушаць інaчай. Машынамі варочаюць, грабяць, збіраюць і да клуні вязуць. Не трэба ўмець воз наладзіць. Воз у адстаўку ідзе. Самазбіраючыя прычэпы ў модзе цяпер.

Чалавек стараецца ўсё змяніць на зямлі. І многа яму ўдаецца. Аднаго не патрапіць да гэтай пары: надвор'е на сенажаць заказаць. Так бывала даўней, таксама ёсць і цяпер. Ад Божае ласкі ўсё залежыць. Як не круціся, як не мазгуй, але калі хмары павіснуць над зямлёю, дождж пойдзе. Тыдзень, то і два тады ў хаце сядзі, праз аконца ўглядайся, чакай, пакуль Усявышні надвор'е пашле. Тады зноў за працу бярыся. Так было, так і бывае цяпер. Чалавек усё змяніў. А ці лепш то для яго? Сам ён, напэўна, і не ведае аб гэтым. Возьмем меліярацыі, у выніку якой вада з лугоў уцякла. Не напіцца цяпер з каляіны. А калі вада і ёсць, дык нячыстая яна. Краявід змяніўся. Успаміны даўнейшай пары ідуць ў нябыт. Лягчэй працаваць цяпер, вядома, усім, аднак чагосьці бракуе, радасці мала. Мала асалоды з жыцця і працы. Песняў таксама няма, прапалі яны, адышлі, хаця стараемся іх не забываць. Аднак гэта не тое, што было даўней. Усё прамінае, адыходзіць ад нас. Незадоўга адыдзем і мы. Час робіць сваё, а чалавек не ў сілах яго затрымаць.

ГРЫША МАРОЗ



*Дзе вада, там і трава.* **Фота А. Вярбіцкага**

## ПРАВАСЛАЎНЫ ЦІ БЕЛАРУСКІ?

Нядаўна інфармавалі мы, як у цяжкіх болях амаль месяц таму нарадзіўся Выбарчы камітэт праваслаўных. Некалькі дзён пасля яго ўзнікнення ўсім стала ясна, што такі Камітэт акурат з прычыны некаторых пунктаў выбарчых палажэнняў для беларускай меншасці на Беласточчыне пазбаўлены падставаў. На пытанне шэфа Выбарчага штаба праваслаўных Пятра Юшчука, пастаўленае Дзяржаўнай выбарчай камісіі, ці атрымаюць кандыдаты Камітэта прадугледжаныя выбарчым законам ільготы, паступіў адказ: „Не". Каб карыстацца льготамі, спісак кандыдатаў павінна зарэгістраваць законная нацыянальная арганізацыя. Не было іншага выйсця, як змяніць назву камітэта, а спісак праваслаўных кандыдатаў зарэгістраваць як кандыдатаў ад Управы Беларускага саюза ў Рэчыпаспалітай. Беларускі саюз — федэрацыя, якая ўзнікла ў выніку дамовы такіх арганізацыяў, як Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", Асацыяцыяя беларускіх журналістаў і Звяз беларускай моладзі.

З-за невялікай палітычнай дасведчанасці шмат працы пайшло дарэмна. Актывісты БДА пачалі збор подпісаў на Праваслаўны камітэт, але спіскі з подпісамі амаль 2 тысяч чалавек, якія падтрымалі гэтых кандыдатаў, трэба было выкінуць на сметнік і пачаць усю працу ад пачатку. У загалоўку кожнага спіска павінна быць назва Беларускага саюза, якому трэба будзе рэгістраваць кандыдатаў. Новая назва не спадабалася бельскім украінцам, якія выйшлі з супольнага камітэта. Калі пішу гэтыя словы, невядома, ці паспрабуюць яны паставіць сваіх кандыдатаў, каб паменшыць шанц беларусаў, ці будуць дзейнічаць у гэтым напрамку толькі прапагандысцкімі метадамі.

Астатнія ўдзельнікі каліцыі — Праваслаўнае брацтва, БГКТ, Таварыства „Русь" і Беларускі саюз пакуль што трымаюцца разам, але ўсё яшчэ можа здарыцца. Ужо збор подпісаў паказаў, што некаторыя арганізацыі абмежавалі свой удзел толькі да прапановы сваіх кандыдатаў.

У сувязі з тым, што кандыдатаў у Сенат трэба было зарэгістраваць да 26 ліпеня, а сабраныя подпісы на Алега Латышонка 22 ліпеня сталі несапраўднымі, і было мала часу, каб збіраць іх ад пачатку, Латышонак адмовіўся ад удзелу ў выбарах.

Канчаткова спіс кандыдатаў у Сейм на 27 ліпеня выглядае так: Антон Міраnовіч (Праваслаўнае брацтва), Ян Сычэўскі (БГКТ), Мікалай Бушко, Мікалай Ваўранюк (Брацтва), Мікалай Валіцкі (Таварыства „Русь"), Сяргей Лукашук (Беларускі саюз), Пятро Прышчэпка (БГКТ), Пятро Крук (Беларускі саюз), Сяргей Шчыгал (Брацтва), Пятро Багроўскі (Беларускі саюз).

Рэд.

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ Ў БЕЛАСТОЦКАЙ ПРЭСЕ

**ROCKOWE BASOWISZCZE**

Nagrodę Białoruskiego Zrzeszenia Studentów (BAS) otrzymał zespół „Mroja" z Grodna.

Kto otrzymał główną nagrodę — nie udało się ustalić ze względu na straszny bałagan organizacyjny.

Sprzedaż piwa przez cały dzień i prawie całą noc też nie była najlepszym pomysłem.

**(Gazeta Współczesna, 19.07.93)**

* * *

Publiczność jednak i tak wydawała się być rozgrzana. Piwem. Kilkanaście punktów sprzedaży potrafiło zaspokoić pragnienie około tysięcznej grupy widzów.

IV edycja Festiwalu rozpoczęła się w piątek o godzinie 20. Na scenę wszedł Sokrat Janowicz, przywieziony syrenką-kabrioletem, pomalowaną w niebiesko-białe ciapki (tak samo jak scena). Otaczali go młodzieńcy w białych koszulach, dwaj ostrzyżeni na łyso, jeden z karabinem (nie sprawdzałem, czy to atrapa). Sokrat Janowicz powitał zebranych, uznał festiwal za otwarty. Strzelił korek od szampana. Zaczęto grać.

(...) Zespoły z Białostocczyzny były słabe. Nie tylko pod względem muzycznym. Wokalista zespołu z Bielska Podlaskiego miał najwyraźniej słabą głowę.

**(Kurier Poranny, 19.07.93)**

* * *

Wstęp na leśne pole namiotowe kosztował 50 tysięcy, piwo od 10 do 16 tysięcy, kiełbasa z chlebem i musztardą — 11 tysięcy. Muzyka była głośna. Z boku sceny — napis „Bolsz czadu". Piątkowy koncert trwał 6 godzin. (...)

Przepustką na pole namiotowe był znaczek, replika plakatu autorstwa Leona Tarasewicza. Na plakacie — gołąbek z wyraźnie wyrysowanymi atrybutami męskości. (...)

— Ja jestem szczęśliwy! Ja naprawdę jestem szczęśliwy — młody chłopak lekko się chwieje. — Przyjechałem tutaj z dziewczyną. Kochamy się. Muzyka dobra. Piwa się można napić.

— Interes? Żeby tylko zawsze taki był. Kupują wszystko — piwo, kiełbaski, lody. Dużo idzie papierosów. Tylko te stare pijusy — pozbierają z krzaków butelki, przyniosą. Chcą sprzedawać i dziwią się, że zielonych nie przyjmuję. (...)

Organizatorzy byli nieuchwytni. Podobno zapracowani. Nigdy nie mieli czasu.

— Nie udzielamy wywiadów prasie. Tak ustaliliśmy. — Marek Zabrocki, jeden z organizatorów, po namowach zgadza się podać kilka informacji. (...)

— Polskie zespoły były do kitu — kilku nastolatków przystaje na chwilę po kolejnej piosence. — Po co było ich tu ściągać?

Mieszkańcy Gródka traktowali koncert jak piknik. Przychodzili całymi rodzinami — babcie, ojcowie, żona, dzieci. Rozsiadali się na kocach. Starsi popijali, dzieci biegały z lodami. Muzyka dla nich była tylko tłem. „Basowiszcza" — świętem.

**(Kurier Poranny, 20.07.93)**

* * *

**Pechowa syrena Tarasewicza**
(твор з „Kuriera Podlaskiego")

— Płacę podatki i mam prawo żądać, by ktoś mnie chronił — domaga się Leon Tarasewicz, znany malarz, radny gm. Gródek. (...)

Cóż się stało? Otóż syrenka bosto w chmurki na błękitnym tle, pomalowana osobiście przez tego artystę, została w nocy z 19 na 20 doszczętnie zdemolowana, wykręcono koła, siedzenia, zniszczono szyby, karoserię. (...)

Syrenka, jak to barwnie ujął L. Tarasewicz, warta była 300 baniek. Tyle bowiem, jak za dzieło sztuki, oferowali mu Szwedzi. (...) Napaść na syrenkę artysta uważa za akt polityczny, wymierzony oczywiście w Białorusinów. Gdyż samochodem tym przyjechał na otwarcie festiwalu „Basowiszcze" Sokrat Janowicz. Ten sam motyw ozdabiał festiwalową scenę. Zdaniem L. Tarasewicza syrenka pełniła określoną funkcję na festiwalu, i „atak" na nią równa się zaatakowaniu białoruskiego festiwalu rockowego i Białorusinów. (...)

Nieoficjalnie poinformowano nas, że w tej sprawie prowadzone jest normalne dochodzenie. O specjalnych względach dla artystów — nawet gdy są nimi radni — w Gródku nie myślą.

**(Kurier Podlaski, 22.07.93)**

***Напісалі, усё адно што аба...лі. Арганізацыйны балаган, п'янства, гангстэрства, сексуальная дый увогуле маральная разбэшчанасць і*** *polskie zespoły do kitu.* ***А да таго яшчэ палітычная*** *syrenka* ***ў белыя аблочкі. Нічога не застаецца, як толькі зліквідаваць гэтае „Басовішча", якое чыніць маладых беларусаў шчаслівымі, а жыхарам Гарадка дае нагоду для двухдзённага сямейнага пікніку. Ну бо хто ж то відзяў, жэбы оні робілі собе фэстівале?!***

* * *

**Што сказаў Віктар Шалкевіч?**

Wiktor Szałkiewicz, grodzieński bard — laureat ubiegłorocznej pierwszej nagrody uważa, że nie jest to korzystne dla Festiwalu (brak bardów — Red.), ponieważ bardzo dużo ludzi zajmuje się poezją śpiewaną — teraz nie będą mieli okazji do zaprezentowania twórczości.

**(Gazeta Współczesna, 19.07.93)**

Zdaniem Wiktora Szałkiewicza rezygnacja z występów bardów jest błędem, to oni rozgrzewali publiczność przed koncertami rockowymi.

**(Kurier Poranny, 19.07,93)**

Festiwal zaczyna tracić swój sens — nie będę wnikał dlaczego, to sprawa organizatorów, ale wydaje mi się, że taką imprezę trzeba robić profesjonalnie. W tym roku nie było promocji, nie było telewizji, widzów było mniej. Białoruskość festiwalu zaczyna znikać, coraz mniej widzów mówi po białorusku.

**(Kurier Poranny, 20.07.93)**

*Och, była promocja, tylko że promowała innych wykonawców. Wiktora Szałkiewicza, naszym skromnym zdaniem, „Basowiszcza" wypromowało już dostatecznie.* ***Хто б увогуле ведаў пра Шалкевіча, калі б не ягоныя выступы ў Гарадку? А што да беларускасці фестывалю, дык тады, мяркуючы па размовах гледачоў, можна было б прыйсці да высновы, што беларускай імпрэзы наагул не існуе ў прыродзе. Відаць, імпрэза ў Гарадку была ў духу Вялікага княства Літоўскага. Але тады незразумела, чаму Віктару,*** *obywatelowi Wiekiego Księstwa,* ***яна не прыйшлася даспадобы.***

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**З двухдзённым візітам на Беласточчыне** пабывалі міністр **Анджэй Закжэўскі** з Канцылярыі Прэзідэнта РП і пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы **Уладзімір Сянько**, якія сустрэліся з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці і ўладамі ваяводства з мэтай азнаёміцца з праблемамі нашага асяроддзя. Гэты візіт — вынік нядаўняй пабыўкі Прэзідэнта РП **Леха Валэнсы** ў Беларусі.

**Міністры абароны ЗША і Беларусі Лес Аспін і Павел Казлоўскі** падпісалі ў Вашынгтоне тры пагадненні, у якіх амерыканцы абавязаліся прызначыць 59 млн. доляраў на дэмантаж і знішчэнне стратэгічных атамных ракет на тэрыторыі Беларусі. Такім чынам агульная сума амерыканскай дапамогі для Беларусі павысілася да 75 млн. доляраў. Амерыканскія грошы будуць выкарыстаны, між іншым, пры транспартаванні ў Расію пэўнай колькасці з ліку 80 ракет СС-25, па добраўпарадкаванню былых ракетных баз, а таксама будове жылля для афіцэраў і перакваліфікацыі былых вайскоўцаў. Падпісаныя пагадненні — вынік візіту старшыні Вярхоўнага Савета **Станіслава Шушкевіча** ў Вашынгтон. С. Шушкевіч з'яўляецца першым кіраўніком з ліку краін СНД, запрошаных у ЗША прэзідэнтам **Білам Клінтанам**.

**Першае ў свеце Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь адкрыта 27 ліпеня г. г. у Гданьску.** „Выбар у першую чаргу Гданьска — гэта сведчанне значэння, якое Беларусь прыдае адносінам з Польшчай, у гэтым канкрэтным выпадку пасрэдніцтву польскіх партоў у адкрыцці беларускім таварам дарогі ў свет", — сказаў генеральны консул **Аляксей Шахновіч**. Раней урад Беларусі абмяркоўваў тры варыянты доступу да мора: праз прыбалтыйскія рэспублікі, Украіну і Польшчу. Самым аптымальным быў прызнаны польскі варыянт з выкарыстаннем партоў у Гданьску і Гдыні.

**Дэлегацыя беларускіх леснікоў** пабывала з першым візітам у Міністэрстве аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лясніцтва ў Варшаве. Тэмай перамоў былі пытанні ўзаемасадзейнічання леснікоў па абодвух баках мяжы ў раёне Белавежскай пушчы, а таксама супрацоўніцтва ў галіне лясной гаспадаркі і аховы лясных экалагічных сістэмаў.

**Падчас сустрэчы прэм'ер-міністраў Польшчы Ганны Сухоцкай і Літвы Адольфаса Шлезавічуса** ў Варшаве было ўзгоднена, што спрэчныя гістарычныя пытанні, якія перашкаджаюць ва ўсталяванні ўзаемных адносін, не будуць разглядацца пры распрацоўцы праекта польска-літоўскага трактата. Гістарычныя праблемы, між іншым захоп Вільні ген. Жалігоўскім у 1920 г., будуць высветлены ў асобнай супольнай дэкларацыі.

**Sommerfest '93** (летні фэст) арганізавалі ў горадзе Альштынак (Ольштынскае ваяводства) Саюз таварыстваў нямецкага насельніцтва ў былой Усходняй Прусіі і Усходне-Прускае зямляцтва з Гамбурга. Гэта была другая такога кшталту імпрэза, першая адбылася ў 1992 г. у Аструдзе. Прадстаўнік зямляцтва гаварыў аб крыўдах, якія пацярпелі немцы даўняй Усходняй Прусіі ў ходзе акцыі перасялення пасля II сусветнай вайны. Падкрэсліў ён, што правы чалавека, у тым ліку і нямецкай нацыянальнай меншасці, асабліва права на спадчыну і ўласнасць павінны выконвацца і ў Польшчы.

**У Ваяводскай выбарчай камісіі ў Беластоку зарэгістраваліся 11 кандыдатаў у Сенат**, з ліку якіх 19 верасня г. г. будуць выбраны два сенатары. Сярод кандыдатаў — былы пасол у Сейм **Яўген Чыквін**, які прадстаўляе Выбарчы камітэт праваслаўных.

**У Кляшчэлях** паліцыя выявіла нелегальныя плантацыі маку плошчаю ў 400 кв. м. Чатырох уласнікаў участкаў будуць прыцягнены да крымінальнай адказнасці.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Візіт міністра Закжэўскага і пасла Сянько на Беласточчыне.
- Хто вінаваты заняпаду беларускага школьніцтва?
- Грошы можна зарабіць, збіраючы грыбы і бутэлькі.
- Беларускае ўзброенае падполле ў II Рэчпаспалітай.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СВЯТА БЕЛАРУСІ

27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі аб'явіў „Дэкларацыю аб незалежнасці Беларусі". Гэты сам Савет рашыў, што дзень 27 ліпеня будзе дзяржаўным святам Рэспублікі.

Беларусам, якія жывуць па-за межамі Бацькаўшчыны, гэтая дата не надта што гаворыць, не кажучы ўжо пра іншыя нацыянальнасці. Таму зразумелыя намаганні дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі, каб падзеям 1990 г. надаць належны ранг.

З гэтай нагоды 26 ліпеня г.г. надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько выдаў на Каралеўскім замку ў Варшаве прыём для дыпламатычнага корпуса і іншых запрошаных гасцей. Святкавала звыш як 300 замежных дыпламатаў, вядомых польскіх палітыкаў і інтэлектуалаў. Сярод іх як заўсёды весела гулялі Сакрат Яновіч і Лёнік Тарасэвіч. Удзельнікі ранейшых мерапрыемстваў падобнага кшталту сцвярджалі, што хаця гэта першае падобнае святкаванне, арганізаванае беларусамі, але надзвычай ўдалае. Вялікая ў гэтым заслуга спадара пасла, які разам са сваёй прыгожай жонкай стварылі адпаведную атмасферу. Грэхам было б не ўспомніць пра цярплівасць консула Уладзіміра Каральчука, якому нават пасля заканчэння банкета капала сілаў гаварыць з карэспандэнтам ПАПа, які пэўна пад уплывам уражанняў меў цяжкасці знайсці выхад з Замка.

У гэты ж дзень у будынку Палітэхнікі была адкрыта выстаўка прамысловых тавараў „Беларусь'93". Прысутным на адкрыцці беластачачанам найбольш, аднак, спадабаліся прыгажуні з Менска, якія паказвалі беларускую вопратку.

**Я. М.**

# ЯК БЕЛАРУСЫ НАЗЫВАЛІ СЯБЕ І СВАЮ МОВУ?

Па-рознаму. Найстаражытнейшы гістарычны назоў нашага народа - *крывічы*. Вацлаў Ластоўскі лічыў, што ён роднасны словам *кроўны, сваяк па крыві*. Потым, з канца I тысячагоддзя па Н. Х., нашыя продкі называлі сябе *Русь, русіны* (слова скандынаўскага паходжання; адно з магчымых пачатковых значэнняў - племя тых, хто плавае на чаўнах). Гэтым словам называлі землі, дзе пашыралася хрысціянства ўсходняга абраду. Была полацкая Русь, кіеўская Русь. Калі ў XV стагоддзі на палітычнай сцэне з'явілася Масква, ейную мову сталі называць *маскоўскаю*, сваю завучы *рускаю*. У Вялікім княстве Літоўскім пашырыліся назовы *Літва, ліцьвіны*. Часам і чужаземцы, і самі беларусы (як навуковец Лаўрэн Зізані) называлі нашую мову *літоўскай* або *літоўска-рускай*.

"Белай" спачатку называлі ўсходнюю - Уладзіміра-Суздальскую - Русь. Але ўжо з XIII стагоддзя заходнія вандроўнікі звалі Белаю Руссю (Вайсэн Руссэн, Русія Альба) менавіта беларускія тэрыторыі. Пазней найменне Беларусь замацавалася было за ўсходнебеларускімі землямі - Віцебшчынай, Смаленшчынай, Магілёўшчынай, а з XIX стагоддзя ўлады сталі называць Беларуссю ўсю краіну. Лідэры беларускага руху пачатку XX стагоддзя - "нашаніўцы" - канчаткова выбралі і пачалі шырока прапагандаваць назву *беларусы, беларуская мова*.

Вацлаў Ластоўскі ды Ян Станкевіч ад пачатку 20-х гадоў прапагандавалі вяртанне назоваў крывічы, крывіцкая мова. Я. Станкевіч, жывучы ўжо на эміграцыі, з 50-х гадоў укараняў назовы *Вялікалітва, вялікаліцьвіны, вялікалітоўская мова*.

**"Звязда", н-р 114**

# ПАНАРАМА КЛЯШЧЭЛЕЎСКАЙ ГМІНЫ (II)

### Прыродныя ўмовы

Сучасны рэльеф Кляшчэлеўскай гміны прадстаўляе сабой крыху ўсхваляваную нізіну ледніковага паходжання, якая знаходзіцца ў сярэднім на вышыні 150 - 180 метраў над узроўнем мора. Больш глыбокія пласты зямной кары маюць складаную геалагічную структуру. На фармаванне сучаснага рэльефа найбольшае ўздзеянне аказалі два апошнія абледзяненні і праца вады з леднікоў. Пры бурэнні каля Кляшчэляў марэна максімальнага абледзянення сустрэта на глыбіні ўсяго двух метраў. Уся паверхня гміны ўсеяна невялікімі ўзгоркамі. Найбольшыя высоты сустракаюцца каля вёскі Дашы - 188 метраў н.у.м. Гэта моцна разбуранае адгор'е Надбужанскіх узвышшаў. Пачынаючы адсюль, уся тэрыторыя мае невялікі схіл у паўночна-заходнім напрамку да даліны ракі Нараў. Ёсць некалькі паніжэнняў - невялікае па даліне рэчкі Нурэц. Наогул, рэльеф не стварае перашкод развіццю сельскай гаспадаркі. Глебы Кляшчэлеўскай гміны залічваюцца, аднак, да катэгорыі слабаўраджайных пясчанавідных. Яны сфарміраваліся на пясках і жвірах. Толькі дзе-нідзе сустракаецца гліна.

### Карысныя выкапні

Кляшчэлеўская гміна ўваходзіць у склад тэрыторыі, на якой рэдка сустракаюцца радовішчы карысных выкапняў. Варта адзначыць, што зямныя нетры гміны вывучаны слаба і немагчыма рабіць канчатковыя высновы аб іх багацці. Радовішчы глін сустракаюцца ў Кляшчэлях на плошчы пяці гектараў. Высокакасныя жвіры ёсць каля Дабрывады на плошчы 14 га (іх таўшчыня 10 метраў), Дашоў - на плошчы пяці гектараў (таўшчыня тры метры), каля Тапаркоў - на плошчы дзесяці гектараў (таўшчыня тры метры) і каля Кляшчэляў на плошчы трох гектараў (таўшчыня два метры).

Каштоўным багаццем з'яўляецца торф. Значную цікавасць маюць радовішчы торфу каля вёскі Тапаркі (яно эксплуатавалася ў час гітлераўскай акупацыі). Тарфянік каля Тапаркоў займае плошчу 200 гектараў (яго таўшчыня 1 - 2 метры) і запасы ў тры тысячы кубаметраў. Тарфянік каля Кляшчэляў мае запасы ў 630 кубаметраў, займае 50-гектарную плошчу, таўшчыня пласта - 1 - 1,5 метра.

У Кляшчэлях была цагельня, якая дасягнула ў ручной прадукцыі мільён штук цэглы. Яна працавала сезонна. Летнія месяцы рабочыя працавалі ў дзве змены пры прадукцыі цэглы - "сырца", якую сушылі і захоўвалі на складах, а зімой - выпальвалі. Яна спыніла дзейнасць у 1962 годзе.

Трыццаць гадоў таму ў Кляшчэлях дзейнічалі дзве ганчарскія майстэрні. Выраблялі ў іх збанкі, міскі і гліняныя гаршкі. Першыя весткі аб існаванні ганчарства паходзяць з XVI-га стагоддзя, але яшчэ нават у міжваенны перыяд ганчарства развівалася добра і давала шырокі асартымент прадукцыі. Зараз - ганчарства ў заняпадзе (не працуюць ужо ганчары ў Кляшчэлях) з увагі на большую практычнасць фабрычных вырабаў.

### Пракладваюць водаправоды

У Кляшчэлеўскай гміне ваду з крана маюць жыхары Кляшчэляў, Сухавольцаў, Сакоў, Залешанаў, Тапаркоў, Дашоў, Жукоў і Пграбаў. Ад нядаўна - усяго месяц таму - вада чыстая, як крышталь, паплыла з водаправода ў Дабрывадзе і Рэпчыцах. Водаправод выконвала Ваяводскае прадпрыемства кансервацыі меліярацыйных аб'ектаў у Беластоку.

Арганізоўваюцца грамадскія камітэты на пабудове водаправодаў у вёсках Палічна, Курашава і Белая Страж. У Палічнай згаданую выгаду ў хаце хоча мець 57 гаспадароў.

У Кляшчэлях ачышчальню сцёкаў будуе фірма "Польбуд" з Бельска-Падляшскага.

### Актыўныя супрацьпажарныя каманды

Гмінная добраахвотная супрацьпажарная каманда ў Кляшчэлях - адна з актыўнейшых нават у ваяводстве. У мінулым годзе на раённых спаборніцтвах заняла яна другое месца (першынство тады заваявала каманда з суседніх Дубічаў-Царкоўных). Узначальвае яе Міхал Якубоўскі.

У Кляшчэлеўскай гміне актыўныя каманды ў Дашах, Палічнай, Сухавольцах, Саках і Тапарках. Якраз у гэтых вёсках ды ў Кляшчэлях пабудавалі прыгожыя пажарныя дэпо са святліцамі.

У гміне пабудавалі таксама пятнаццаць супрацьпажарных басейнаў. Іх колькасць дастатковая. У Кляшчэлях іх тры, а ў Дашах, Палічнай, Саках і Тапарках - па два. Камендантам гміннай стражы з'яўляецца Мікалай Младзяноўскі з Кляшчэляў.

### Шляхі і дарогі

У Кляшчэлеўскай гміне даўжыня важнейшых дарог - 140 кіламетраў, у тым ліку 70 км - гмінных. Ваяводскія дарогі, да якіх належаць, між іншым, адрэзкі дарог з Кляшчэляў у Дабрываду, з Жукоў у Малочкі і з Грузкі ў Пятроўшчыну, патрабуюць капітальнага рамонту. Зараз узбочыны шматлікіх шляхоў зараслі кустамі і пустазеллем, хаця б на адрэзках гравеек з Кляшчэляў у Вульку-Выганоўскую, з Войнаўкі ў Апаку-Вялікую, з Кляшчэляў у Палічну ды на шляху Жукі - Пятроўшчына - Грузка.

Гмінныя ўлады клапоцяцца перш за ўсё за "свае" гмінныя дарогі - з Дабрывады ў Рэпчыцы, з Дашоў у Косьну і Пграбы ды з Сакоў у Грабавец. У чэрвені гэтага года паклалі асфальт на вуліцы Зьрудлянай у напрамку спартыўнай пляцоўкі ў Кляшчэлях. Яшчэ пакладуць яго прынамсі на адной палавіне дарогі з Кляшчэляў у напрамку вёскі Жукі.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**
**фота аўтара**



*Пажарнае дэпо (раміза) і гмінны асяродак культуры ў Кляшчэлях*

# ЦІКАВАЯ ЗНАХОДКА

Збігнеў Кэмпінскі працуе шэфам прыватнага турысцкага бюро „Libertourist", якое знаходзіцца ў Валаміне, а яго філіял — у Варшаве. Ён, да таго ж, вялікі аматар Белавежскай пушчы. Некалькі гадоў таму здабыў нават экскурсаводныя правы і зараз час ад часу можна сустрэць яго на пушчанскіх шляхах з турысцкімі групамі. Усё ж сп. Збігневу больш падабаецца хадзіць па пушчы самому або ў невялікай групе знаёмых. Здараецца, што на гэтыя вандраванні бярэ сваіх дзяцей, Агнешку і Гжэгажа, якія таксама захапіліся турызмам.

Ї, вось, год таму, падчас адной з экскурсій па пушчы са сваім сынам, Збігнеў Кэмпінскі знайшоў у жвіровым кар'еры, што за старой пагранічнай заставай, глінянае прасліца (przęślik).

— Сталася гэта зусім выпадкова, — кажа Збігнеў. — Мы сышлі ўглыб жвіроўні, каб знайсці камяні, на якіх адціснуты сляды колішніх невялічкіх марскіх жывёл, насякомых. Неўзабаве мы сустрэлі цікавы „каменьчык" з дзіркай. Калі яго паднеслі з зямлі і ачысцілі, выявілася, што гэта векавое прасліца. Вядома, узрадаваліся знаходкай і пачалі дакладна разглядаць навакольле, але ўжо нічога такога не знайшлі.



Думаем, што прасліца апынулася на дне кар'ера спадаючы з яго берагу, разам з асыпаючымся жвірам.

Размеры прасліца: дыяметр — 13 мм, таўшчыня — 5 да 6,5 мм, дыяметр зорачкі, што ў сярэдзіне — 6,5 мм.

Сп. Кэмпінскі абяцаў мне, што сваю знаходку перадасць у белавежскі музей.

Пры нагодзе трэба ўспомніць, што раён Белавежскай пушчы надта слаба даследаваны археолагамі. Практычна дакладней абследаваліся імі толькі адны курганы. Ранейшыя археалагічныя знаходкі пераважна выпадковыя, учынены не спецыялістамі. Трэба яшчэ сказаць, што не ўсе яны зарэгістраваны — нярэдка той, хто нешта знайшоў, не лічыць патрэбным паведаміць адпаведныя ўстановы, а тым больш перадаць знаходку ў музей. Добра было б, каб археолагі ўсур'ёз пацікавіліся тым, што хавае белавежскі векавы лес. Мо выявілася б шмат таямніцаў, якіх дагэтуль не ўдалося раскрыць гісторыкам.

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Збігнева Кэмпінскага**

**У Бельску быў знішчаны помнік АК. Абвінавачаны ў злачынстве былы міліцыянт.**

# ХУЛІГАНСТВА ЦІ ПАЛІТЫКА?

У сакавіку 1992 года па ініцыятыве Акруговай управы Сусветнага саюза жаўнераў Арміі Краёвай у Бельску-Падляшскім пачалася зборка грошай на помнік ахвярам гітлерызму і сталінізму, жаўнерам 1939 года і польскага руху супраціўлення. Помнік — на гарадскім могільніку — быў гатовы ў верасні таго ж года. Гэта 15-метровай вышыні крыж, у падножжа якога прымацаваная пліта з выявай ордэна „Virtuti Militari" і надпісам, каму грамадскасць Бельска помнік ахвяравала. Надпіс быў адліты з масянжовых літар, з якіх толькі адна каштавала тады прыблізна 9 тысяч злотых. Увесь помнік каштаваў каля 130 мільёнаў.

23 кастрычніка 1992 года ў Раённай камендатуры паліцыі Бельска з'явіўся старшыня Акруговай управы жаўнераў АК Генрык Банькоўскі з заявай: з помніка былі пакрадзены 13 літар. Уначы з 1 на 2 лістапада знікла яшчэ 5 літар і крыж „Virtuti Militari" (вагой каля 16 кілаграмаў).

У снежні згуба знайшлася... на пункце скупкі каляровых металаў. Потым няцяжка было знайсці і чалавека, які гэты лом — распілаваныя літары і элементы крыжа — прадаў. Аказаўся быць ім колішні міліцыянт, цяпер пенсіянер Аляксандр В.

Справа аб знішчэнні помніка распачалася ў бельскім Раённым судзе 15 ліпеня. Абвінавачаны вінаватым не прызнаўся. У міліцыі быў ён у гадах 1958-88. Быў нават камендантам у гмінных мясцовасцях у наваколлі Бельска. У Польскай аб'яднанай рабочай партыі быў да яе канца, але толькі радавым членам. Цяпер мае пенсію 2 мільёны 900 тысяч злотых. Лом купіў на базары ад „рускага" з мэтай падзарабіць. Што гэта такое — не ведаў. Пра знішчэнне помніка пачуў упершыню, калі яму закінулі злачынства. „Не ведаю, чаму скупшчык на рахунку напісаў іншае прозвішча, я яму назваў сваё".

Абарона прытрымлівалася гэтай версіі. На карысць Аляксандра В. сведчылі суседзі і сын. Адзін з іх сказаў, што нават у дзень суда бачыў на базары каляровы метал, ды і сам калісьці купіў там волава для зваркі.

Супраць Аляксандра В. былі некаторыя акалічнасці. Частка сведак пракуратуры — былыя жаўнеры АК — хацела адмовіцца даваць паказанні, бо адзін з лаўнікаў калісьці працаваў у апараце бяспекі. Але суддзя ім на гэта згоды не даў. Супраць абвінавачанага настроена была таксама публіка на судзе. У час перапынку прысутныя наглядальнікі ўголас задумоўваліся, ці ён сам дапусціў гэтае злачынства, ці хтосьці за ім стаіць (нават з'явілася прозвішча Цімашэвіча).

З тае прычыны, што не прысутнічаў галоўны сведка пракурора — скупшчык металу, — суд адклалі на другі дзень. Хворы (пасля аперацыі на сэрца) скупшчык даў тады свае паказанні, але і гэта не вырашыла, хто вінаваты. Ветэраны АК, незадаволеныя пракурорам, патрабавалі дапаможнага абвінаваўцу. На гэта абаронца папрасіў адтэрмінаваць суд, бо яму ў такім выпадку трэба рыхтавацца нанава.

Так і сталася. Справу адтэрмінавалі на неназначаны час. Жыхары Бельска маюць нагоду, каб разважаць, ці было гэта хуліганства, ці кінуўся на такі ўчынак чалавек у адчаі, па ідэалагічных прычынах.

**М. В**

**P.S.** Помнік ужо аднавілі.

# БЕЛАРУСЫ З'ЕХАЛІСЯ Ў МЕНСК

У Менск я трапіў у пятніцу (9 ліпеня) пад раніцу. Бясклопатна зарэгістраваўся і атрымаў нумар у гатэлі „Беларусь", дзе арганізатары размясцілі ўдзельнікаў І З'езда беларусаў свету. На снеданне таксама трапіў адразу. Арганізацыя ўсяго мерапрыемства ішла вельмі спраўна, нягледзячы на тое, што на З'езд з'явілася ўдвая больш удзельнікаў, чымсьці арганізатары спадзяваліся. Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" і ўлады Рэспублікі Беларусь прыклалі шмат намаганняў, каб першы такі ўсебеларускі форум выглядаў добра і прыстойна. Калі ўлічыць, што акрамя трох дзён пасяджэнняў у Менску З'езду спадарожнічалі шматлікія імпрэзы пабочнага характару (юбілейныя ўрачыстасці ў Нясвіжы, у Навагрудку, Купалле ў Стаўбцоўскім і Быхаўскім раёнах, адкрыццё нарачанскага форуму для дзяцей і моладзі, мастацкая выстаўка „Жыве Беларусь" і свята паэзіі ў Менску ды інш.), можна сказаць, усё мерапрыемства закончылася вялікім арганізацыйным поспехам. Праца З'езда шырока асвятлялася ў сродках масавай інфармацыі (асабліва на тэлебачанні).

Другі дзень менскіх пасяджэнняў прайшоў у групах (так званых „круглых сталах") па тэмах: 1/ беларуская дзяржаўнасць; 2/ беларуская гаспадарка; 3/ беларускія прадпрымальнікі замежжа; 4/ беларуская культура; 5/ беларуская дыяспара. Трэці дзень (субота) — зноў агульнае пасяджэнне ў зале Опернага тэатра, дзе выступалі дэлегаты, падсумоўвалася праца круглых сталоў, прымаліся выніковыя дакументы З'езда ды выбіраліся кіруючыя і каардынацыйныя органы Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" (менавіта напрыканцы І З'езд беларусаў свету пераўтварыўся ў з'езд „Бацькаўшчыны"). Асноўныя дакументы З'езда пастараемся апублікаваць, калі атрымаем з Менска іх канчатковую, адрэдагаваную версію. Сёння запрашаем удзельнікаў З'езда з Беласточчыны (было іх каля 90 чалавек), каб падзяліліся сваімі ўражаннямі, рэфлексіямі і ацэнкамі менскага мерапрыемства з чытачамі „Нівы". Са свайго боку хацелася б падзяліцца з чытачамі наступнымі думкамі наконт значэння менскай сустрэчы.

Несумненна, правядзенне З'езда з такой вялікай колькасцю дэлегатаў з блізкага і далёкага замежжа трэба лічыць вялікім поспехам як „Бацькаўшчыны", так і цяперашніх уладаў Рэспублікі. Поспехам прапагандысцкага характару перш за ўсё. З'езд прыцягнуў людзей шчыра заангажаваных у беларускае нацыянальнае адраджэнне ў краіну, дзе лёс таго адраджэння ўсё яшчэ няпэўны, і дзе ў шчырасць шматлікіх кіраўнікоў грамадскага жыцця адносна палітыкі нацыянальнай дзяржаўнасці можна болей чым засумнявацца. Такія ключавыя справы, як суверэнітэт беларускай дзяржавы і лёс беларускай мовы ўсё яшчэ застаюцца пад пагрозай. Але, відаць, нават у камандзе прэм'ера Кебіча ёсць людзі, якія ўсё-такі ўгледзелі незваротнасць шляху да незалежнасці Беларусі і паўнаты нацыянальнага жыцця беларусаў, і таму прынялі дзейсны ўдзел у арганізацыі і падтрыманні гэтага „нацыяналістычнага" форуму.

Другая справа. Менавіта гэтая няўпэўненасць у далейшым лёсе беларускага нацыянальнага жыцця ў значнай ступені абумоўлівала выступленні шмат якіх удзельнікаў З'езда. Яны былі палітызаванымі, засяроджваліся на асноўных пытаннях палітычна-эканамічнага характару і ў такім выглядзе мала прыставалі да пажаданага накірунку З'езда, які, на маю думку, павінен быў выпрацаваць эфектыўныя формы лучнасці і супрацоўніцтва беларусаў на Бацькаўшчыне з суайчыннікамі блізкага і далёкага замежжа.

Бадай, найважнейшым з усяго гэтага З'езда я лічу магчымасць спаткання беларускай дыяспары Захаду з суродзічамі на Бацькаўшчыне і тыя шматлікія кантакты прыватнага і афіцыйнага ўзроўню, што адбыліся ў Беларусі. Пасля паўвяковага перыяду ахайвання і цкавання беларускае эміграцыі Беларусь пачынае вяртаць у сваю нацыянальную супольнасць тых сыноў і дочак, якія пакінулі яе па палітычных матывах. Тут адбываецца вяртанне сама менш на двух узроўнях. Па-першае, вяртаюцца жывыя, рэальныя людзі, якія памятаюць краіну свайго дзяцінства, свае родныя мясціны. Па-другое, спакваля будзе вяртацца тая духоўная спадчына эміграцыі, напрацаваная ў заакіянскіх краях, на выгнанні. Без гэтай спадчыны беларуская культура заставалася б нашмат бяднейшай; цяжка было б усведаміць без яе, што такое беларускі лёс сёння, у постсавецкі перыяд.

У Менску давялося пачуць і такое меркаванне: наўрад ці добра зрабіла заходняя беларуская дыяспара, падтрымаўшы гэты з'езд і засеўшы за адным сталом таксама з падбелярусізаванымі ўчарашнімі бальшавікамі, якія да беларускай справы ставяцца наогул кан'юнктурна. Ды тут, відаць, справа практычнага разліку: заходняя дыяспара выразна больш тэхналагічна ... 

носна будучыні, чым ад чакання, пакуль працэс беларусізацыі абрысуецца больш выразна. У гэткім сэнсе, мусіць, і трэба разглядаць выступленне аднаго з лідэраў амерыканскай дыяспары, Вітаўта Кіпеля, які выказаў перакананне, што З'езд стаўся істотным крокам на шляху да яднання беларусаў на Бацькаўшчыне і па-за яе межамі.

Што тычыцца рэакцыі з боку ўладаў на пажаданні і пастулаты ўдзельнікаў З'езда, тут можна прывесці сэнс выказвання міністра замежных справаў Беларусі Пятра Краўчанкі на заключнай прэс-канферэнцыі. Урад Рэспублікі Беларусь, сказаў міністр, у дадзены момант у змозе прыносіць дапамогу суродзічам так званага блізкага замежжа, асабліва беларусам у былых рэспубліках былога СССР. Беларусы з Захаду матэрыяльна няблага забяспечаныя, і яны павінны сабе даваць рады самі. Пра Беласточчыну спадар Краўчанка ў гэтым выступленні не ўспомніў, але кожны з нас можа сабе адказаць на гэты конт сам, мяркуючы па выніках кантактаў нашага асяроддзя з Беларуссю. Мой асабісты погляд такі:

На матэрыяльную дапамогу з боку Рэспублікі Беларусь Беласточчыне таксама нельга разлічваць. Не тая эканамічная сітуацыя. Што тычыцца іншай дапамогі (перш за ўсё ў наладжванні розных кантактаў — асветнага, навуковага і інш. характару), яна таксама стаіць пад сумненнем. Калі Беларусь увойдзе ў вайсковы блок з Расіяй і іншымі постсавецкімі дзяржавамі, гэта будзе азначаць, што лінія мілітарнага размежавання „двух светаў" перасунецца з Эльбы на Свіслач за Гарадком. А тады, насуперак спадзяванням прэзідэнта Леха Валэнсы, мяжа паміж Польшчай і Беларуссю не знікне, а, хутчэй за ўсё, ушчыльніцца яшчэ некалькімі дротавымі агароджамі, метафарычна кажучы. На практыцы гэта будзе азначаць, што тыя слабыя кантакты паміж беларусамі Беласточчыны і Беларусі могуць увогуле абарвацца.

Іншы (але не менш песімістычны) аспект дачыненняў паміж Беларуссю і намі зазначыў у сваім справаздачным выступленні старшыня папярэдняй Управы „Бацькаўшчыны" Яўген Лецка. Ён сцвердзіў, што беластоцкія беларусы дужа раз'яднаныя (у той момант, калі тое раз'яднанне па сутнасці знікла) і што нам трэба ўтварыць адну дынамічную арганізацыю накшталт перадваеннай „Грамады" (відаць, і з падобным ідэалагічным профілем). Калі прыгадаць сабе, якую палітычную ролю адыграла „Грамада" ў пазнейшай ліквідацыі польскімі ўладамі ўсіх праяваў беларускага жыцця ў міжваеннай Польшчы і якім чынам завяршыўся лёс самой партыі і яе лідэраў, дык міжволі страпянемся. Аказваецца, гісторыя няшмат чаму нас навучыла. Дый надалей беларусы Беласточчыны бачацца кіраўнікам з-за мяжы не як суб'ект беларускай гісторыі, а як аб'ект маніпуляцыі (якая з беларускасцю не мае шмат супольнага). Дзякуем, пачакаем.

На заканчэнне пра фармальныя справы. Новым прэзідэнтам „Бацькаўшчыны" стаў праф. Радзім Гарэцкі, віцэ-старшыня Акадэміі Навук Беларусі. Былі выбраны Рада (а фактычна дзве рады: вялікая і малая) ды Управа „Бацькаўшчыны". Старшынёй Управы з 17 чалавек стала Ганна Сурмач. Яўген Лецка, папярэдні старшыня, па чутках, мае заняць пасаду кіраўніка па выдавецкіх справах „Бацькаўшчыны".

**ЯН МАКСІМЮК**

# СТАІМ ПЕРАД ШАНЦАМ

**ШАНОЎНЫЯ ВЫБАРШЧЫКІ!**

Стаім сёння перад чарговым шанцам выбару сваіх прадстаўнікоў у вышэйшыя дзяржаўныя органы. У мінулым нашымі праблемамі ніхто не цікавіўся. У Сейме апынуліся прадстаўнікі іншых партый і палітычных груповак, незацікаўленых лёсам насельніцтва Усходняй Беласточчыны. Мы, праваслаўныя беларусы, былі ім патрэбны толькі для ўдзелу ў выбарах. У ходзе кампаніі абяцалі яны многае, але пазней ніхто так і не выканаў сваіх абяцанняў. Стараліся яны дамагчыся нашай падтрымкі, але ўжо потым не заўважалі нашых праблемаў. У выніку ўсходняя частка Беласточчыны стала самым гаспадарча і культурна занядбаным рэгіёнам нашай краіны. Аб тым, як важная роля нашага прадстаўніцтва ў Сейме, няхай сведчыць прысутнасць у ім на працягу апошніх трох скліканняў пасла Яўгена Чыквіна. Удалося яму закрануць многія складаныя пытанні для Праваслаўнай Царквы і нашага асяроддзя. Аднак не зрабілі гэтага тыя, якія многае абяцалі і якім большасць праваслаўных аддалі свае галасы падчас папярэдніх выбараў. Ці зноў быць нам казламі адпушчэння, якія падтрымоўваюць усіх іншых, толькі не сваіх? Нам патрэбны свой прадстаўнік, які будзе мець магчымасць выступіць у абарону правоў Праваслаўнай Царквы і нашага асяроддзя. Іншыя палітычныя групоўкі апрача пустых дэкларацый, ні ў чым нам не дапамогуць. Занятыя барацьбой за ўладу, яны не будуць дбаць аб нацыянальных ці рэлігійных меншасцях. Апошнім часам яны мала ўвагі аддавалі нават такім агульнагамадскім праблемам як беспрацоўе, адсутнасць жыццёвых перспектыў у маладога пакалення і цяжкасць умоў жыцця найбяднейшых слаёў грамадства — пенсіянераў і рэнцістаў. Ніхто нічога не робіць для ратавання прадпрыемстваў і сельскіх гаспадарак. Гэтую сітуацыю не адменіць і прадстаўнік Выбарчага камітэта Беларускага саюза. Аднак, ён можа выступаць і дамагацца рэалізацыі многіх пастулатаў нашага асяроддзя.

Галоўнымі праблемамі, якія павінны легчы ў аснову яго парламенцкай актыўнасці, лічу:

— дамагчыся роўнай трактоўкі Праваслаўнай Царквы пры яе стараннях за вяртанне царкоўнай маёмасці, асабліва будынкаў Супрасльскага манастыра,

— рэалізацыя пастулатаў беларускага асяроддзя і іншых нацыянальных груповак у галіне развіцця іх школьніцтва і культуры,

— ліквідацыя дыспрапорцый у гаспадарчым развіцці ўсходняй і заходняй частак Беласточчыны,

— стварэнне спрыяльных умоў для прыгранічнага абмену паміж Польшчай і Беларуссю,



— гарантыя прапарцыянальнага ўдзелу прадстаўнікоў меншасцяў у складзе адміністрацыйных улад ваяводства, гарадоў і гмін,

— стварэнне навукова-даследчыцкай установы, якая б вывучала ролю беларускага і праваслаўнага асяроддзя ў гаспадарча-культурным развіцці рэгіёна і краіны.

Пералічаныя праблемы не вычэрпваюць усіх патрэб нашага асяроддзя. Будучы парламентарый, выбраны са спіска Выбарчага камітэта Беларускага саюза, павінен дапамагаць у індывідуальных і агульных справах. Гэта — яго абавязак перад выбаршчыкамі. Але пакуль да гэтага дойдзе, яму патрэбная падтрымка выбаршчыкаў. Прынятая місія добра служыць праваслаўнаму электарату, павінна быць адобрана нашым грамадствам і падтрыманая ў дзень выбараў — 19 верасня 1993 года. Эвентуальны выбарчы поспех кандыдата ад Праваслаўнага брацтва трэба лічыць дасягненнем усяго асяроддзя. Гэта будзе сведчыць аб палітычнай сталасці праваслаўнага і беларускага насельніцтва нашага ваяводства, якое хоча мець свайго прадстаўніка. Падтрымка праваслаўнага кандыдата польскімі выбаршчыкамі была б вельмі важным жэстам з боку большасці і сведчыла б аб бачанні нашых праблемаў на тэрыторыі Беласточчыны.

Мой удзел у выбарчай кампаніі лічу гонарам і даверам да маёй асобы з боку арганізацый-стваральніц Выбарчага камітэта Беларускага саюза. Каб намаганні Камітэта не аказаліся безвыніковымі, нам патрэбна Вашая падтрымка падчас выбараў. Я глыбока веру, што Вы яе акажаце.

**АНТОН МІРАНОВІЧ,**
**кандыдат у Сейм**
**ад Выбарчага камітэта**
**Беларускага саюза**

# ДА ПЫТАННЯ АЎТАКЕФАЛІІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў БЕЛАРУСІ

Пытанне аўтакефаліі Праваслаўнай царквы на Беларусі набыла цяпер большую актуальнасць з увагі на тое, што Рэспубліка стала на шлях незалежнасці. Незалежная структура кожнай Царквы (праваслаўнай ці каталіцкай) — прыкмета незалежнасці дзяржавы. Менавіта таму ў апошнія гады дэмакратычныя сілы ў Беларусі і беларускія асяроддзі на эміграцыі выказваюцца за аўтакефалію Праваслаўнай царквы. Такія ж прапановы накіроўваюцца ў адрас Каталіцкага касцёла, які знаходзіцца пад уплывам польскага духавенства і не спрыяе нацыянальнаму адраджэнню беларусаў. Істотную ролю ў гэтым працэсе можа адыграць зрусіфікаваная Праваслаўная царква. Праваслаўе, менавіта, для беларусаў — гэта сталы і неаспрэчны элемент тоеснасці. На гэтую справу ўсё большую ўвагу звяртаюць дзяржаўныя ўлады, якія ў рэлігійным адраджэнні бачаць маральнае і культурнае адраджэнне народа. Апошнім часам былі ўчынены спробы ўвесці змяненні ў палітыцы ўлад Праваслаўнай царквы на Беларусі. Аднак, здаецца мне, што некаторыя дзеянні былі выкліканы знешнімі фактарамі, такімі як узнікненне ўласнай дзяржаўнасці, аднаўленне уніяцкіх парохіяў, памкненні дэмакратычных плыняў да незалежнасці ад Масквы ва ўсіх галінах жыцця.

Гэтыя чыннікі сталі прычынай, што Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы атрымаў незалежную арганізацыйную структуру з дзесяццю епархіямі. Устаноўлены таксама дзень беларускіх святых (выпадае ён на трэцюю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы), перакладзена на беларускую мову Евангелле паводле Матфея, працягваюцца працы над далейшымі перакладамі Свяшчэннага Пісання і літургічных тэкстаў. У Жыровіцкай семінарыі будучыя свяшчэннікі могуць вучыцца на роднай мове. Важную ролю ў нацыянальным адраджэнні выконваюць царкоўныя брацтвы, у якіх гуртуецца беларуская моладзь і інтэлігенцыя. Але гэтыя змены не настолькі глыбокія, каб можна было гаварыць аб працэсе ўзнікання аўтакефаліі беларускай Праваслаўнай царквы. Можна толькі меркаваць, што так, як і ў іншых краінах, Царква атрымвае арганізацыйную і кананічную самастойнасць тады, калі дзяржава стане сапраўды незалежнай. Сёння беларуская дзяржава стаіць толькі на парозе сваёй незалежнасці, што не спрыяе фармаванню аўтакефальных памкненняў Праваслаўнай царквы.

Царкоўная аўтакефалія на беларускіх землях мае шматвяковую традыцыю. Яе пачаткам можна лічыць канец X стагоддзя, калі была заснавана першая Полацкая епархія (каля 992 года). У 1088 годзе стварылася Тураўска-Пінская епархія, а ў 1136 — Смаленская. Полацкая епархія стала цэнтрам рэлігійнага жыцця беларусаў. Палітыка полацкіх князёў, асабліва Усяслава Чарадзея (1044-1101), імкнулася стварыць незалежную, у адносінах да Кіева і Ноўгарада, дзяржаўнасць. З Полацкай зямлі выводзіцца найбольш святых, у тым ліку тры святыя епіскапы (свяціцелі): Міна (1105-1116), Дыянісій (1116-1187), Сымон (1266-1289). Святыя епіскапы садзейнічалі не толькі развіццю хрысціянства, асветы і культуры, але таксама і незалежнасці Полацка ад сваіх суседзяў. І ўрэшце святая Ефрасіння (1110-1173) — заснавальніца манастыра Св. Спаса ў Полацку, якая стала заступніцай беларускага народа і яго асветніцай.

Тураўская епархія ўзнікла ў часе, калі тураўскія князі, а асабліва князь Яраслаў Ізяслававіч, імкнуліся да незалежнасці ад Кіева. У перыядзе найбольшага росквіту Тураўскай зямлі, які выпаў на XII стагоддзе (пры Юрым Яраслававічу і яго сыне Святаполку — памёр каля 1190 года), наступіла буйнае развіццё рэлігійнага жыцця. Доказам гэтага з'яўляюцца святыя згаданага перыяду: Марцін (1120-1170), епіскап Кірыла (1169-1182) і епіскап Лаўрэнцій (1182-1194). Святы Кірыла Тураўскі стаў паўсюдна шанаваным святым сярод беларусаў і іншых славянскіх народаў.

Заснаванне Смаленскай епархіі, у састаў якой уваходзілі таксама этнічныя беларускія землі, спалучаецца з дзейнасцю благавернага князя Расціслава (1126-1168), які імкнуўся да незалежнасці дзяржавы. Гэты князь стаў заснавальнікам многіх храмаў і манастыроў, абаронцам інтарэсаў мясцовай Царквы. Узнікненне незалежнай царкоўнай структуры стала пачаткам развіцця духоўнага і культурнага жыцця Смаленскай зямлі. Трэба адзначыць, што епархіі на беларускіх землях уваходзілі ў склад Кіеўскай мітраполіі, якая ў юрыдычным сэнце падлягала Канстанцінопальскаму патрыярхату.

Другі этап стварэння асноў аўтакефаліі Праваслаўнай царквы выпадае на перыяд падпарадкавання беларускіх зямель уладзе літоўскіх князёў. Іх палітыка імкнулася стварыць незалежную ад Кіева, Галіча і Уладзіміра (на Клязьме) царкоўную структуру. Вянцом гэтай палітыкі было стварэнне праваслаўнай літоўскай епархіі пры Гедыміне (1315-1341) з сядзібай у Навагрудку, якой кіраваў мітрапаліт Феафіл. І хаця мітраполія ўпала ў 1330 годзе, упершыню большасць беларускіх зямель апынулася ў межах адной суцэльнай царкоўнай структуры, незалежнай ад іншых рускіх мітраполій. Яе прадстаўнікі прымалі ўдзел у сходах Патрыяршай рады ў Канстанцінопалі ў 1317, 1327 і 1329 гадах. Аднаўленне літоўскай мітраполіі адбылося пры панаванні Альгерда (1345-1377) у 1350 годзе. Да яе былі далучаны ў 1371 годзе епіскапствы Галіцкай мітраполіі, а на працягу XV стагоддзя — іншыя епархіі Кіеўскай мітраполіі з межаў Вялікага княства Літоўскага. Поўнае парванне сувязей з Маскоўскай мітраполіяй наступіла ў 1415 годзе, калі літоўскім мітрапалітам быў выбраны Рыгор Цамблак, а маскоўскім — Фоцій. У 1458 годзе маскоўскія мітрапаліты афіцыйна адмовіліся ад звання кіеўскіх мітрапалітаў. З 1458 года да Брэсцкай уніі (1596 г.) беларускія епіскапствы (Полацкае, Тураўскае, Смаленскае, частка мітраполічых) уваходзілі ў састаў незалежнай Кіеўскай мітраполіі і мелі шырокую аўтаномію.

Страта аўтаноміі Праваслаўнай царквы на беларускіх землях адбылася пасля Брэсцкай уніі, калі стала яна аб'ектам атакаў уніятаў і зацікаўлення Маскоўскага патрыярхату. Праваслаўная царква ў выніку дэкрэту караля Уладзіслава IV ад 1635 г. страціла Полацкае, Брэсцкае і Турава-Пінскае епіскапствы на карысць Уніяцкага касцёла. У 1656 г. разам з адыходам Смаленскай зямлі да Масквы адарвалася Смаленскае епіскапства. У выніку беларускія землі былі падпарадкаваны кіеўскім мітрапалітам, а з 1635 года — таксама Мсціслаўскаму мітрапаліту. Гэтае епіскапства існавала да 1772 года пад назвай Мсціслаўска-Аршанска-Віцебскага епіскапства (беларускага). Падзел Вялікага княства Літоўскага, адной з двух частак Рэчы Паспалітай, стаў прычынай падпарадкавання Царквы ў Беларусі Рускай праваслаўнай царкве.

Пасля развалу Рускай Імперыі ў 1917 годзе ў свецкім і духоўным асяроддзі зноў узніклі канцэпцыі адраджэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. 9-10 жніўня 1922 года ў Менску пад старшынствам мітрапаліта Мельхіседэка адбыўся з'езд духавенства і вернікаў Менскай мітраполіі, які прыняў рашэнне аб ператварэнні Менскай мітраполіі ў Беларускую праваслаўную царкву. У 1927 годзе той самы мітрапаліт Мельхіседэк склікаў памесны сабор з епіскапаў, духавенства і прадстаўнікоў вернікаў з усёй Беларусі (г. зн. з земляў у межах СССР), які аб'явіў узнікненне Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы і парваў усялякія формы залежнасці ад Рускай царквы. Выкананне пастаноў беларускага памеснага сабора сустрэлася з рашучым супрацівам бальшавіцкіх улад і Рускай царквы. Бальшавікі з 1927 года сталі праследаваць усялякія нацыянальныя і незалежніцкія плыні, у тым ліку і імкненні праваслаўных цэркваў атрымаць аўтакефалію. Неўзабаве пасля сабора мітрапаліт Мельхіседэк быў арыштаваны і замучаны разам з многімі свяшчэннікамі і манахамі.

Ізноў ідэя аўтакефаліі Царквы адрадзілася ў 1942 годзе. Нямецкія акупацыйныя ўлады дазволілі арганізаваць Агульнабеларускі праваслаўны сабор, на які прыбылі шэсць епіскапаў, духоўныя і дэлегаты ад вернікаў усіх прыходаў. Гэты сабор узнавіў Беларускую аўтакефальную царкву з сямю епіскапамі, якія заставаліся ў кананічнай лучнасці з Канстанцінопальскім патрыярхатам. Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква здабыла шырокія ўплывы ў беларускім грамадстве і выклікала адраджэнне рэлігійнага жыцця. Пасля вызвалення Беларусі прыходы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы зноў папалі пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату. Іерархі Беларускай царквы з мітрапалітам Панцеляймонам падаліся ў эміграцыю, а разам з імі — мноства вернікаў і духавенства. Тыя, хто застаўся, загінулі ў бальшавіцкіх лагерах. Эміграцыйныя рэлігійныя дзеячы склікалі ў 1946 годзе на нямецкай зямлі сабор, які стварыў Беларускую аўтакефальную царкву. Сабор гэты вырашыў спалучыцца з Рускай права-слаўнай царквой г. зв. „Зарубежнай". Рашэнні сабора не былі адобраны ўсімі эміграцыйнымі дзеячамі. Беларускае духавенства і свецкія дзеячы пад старшынствам епіскапа Сяргея 5 чэрвеня 1948 года ў Канстанцы стварылі Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву на чужыне. Часовае яе кіраўніцтва ўзначалілі епіскап Сяргей і Духоўная кансісторыя. 19 студзеня 1949 г. быў высвечаны першы епіскап новай структуры Беларускай царквы — Васіль, а пасля яго многія іншыя. Цяпер прыходы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы апынуліся ў юрысдыкцыі двух мітрапалітаў: Мікалая (Мацюкевіча) і Ізяслава (Бруцкага). Прыходы гэтай Царквы знаходзяцца на тэрыторыі ЗША, Канады, Вялікабрытаніі і Аўстраліі.

Згаданыя факты паказваюць на спробы стварэння ў мінулым Аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Беларусі. На эміграцыі такая Царква дзейнічае з 1948 года. Ці ўзнікне яна ў Рэспубліцы Беларусь? Залежыць гэта будзе ад многіх фактараў: галоўным чынам ад волі вернікаў і беларускага духавенства і ад сапраўднага стану суверэннасці дзяржавы.

**АНТОН МІРАНОВІЧ**




**ВАШЫЯ МІЛАСЬЦІ!**

Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы будзе вельмі ўдзячная, калі з Вашае ласкі зьмесьціце на бачынах выдаванае Вамі газэты ніжэй напісанае выясьненьне.

У н-ры 26-м газэты „Ніва" за 27-га чэрвеня 1993-га г. быў надрукаваны артыкул а. Канстанціна Бандарука „Беларускія Сьвятыя".

Зьяўленне артыкулу вельмі карыснае й заслугоўвае прывітаньня, а разам з гэтым патрабуе колькі заўвагаў, бо некаторыя весткі, што маюць дачыненьне да закранутае тэмы, былі паважаным аўтарам недаказаныя, або й зусім прамоўчаныя.

Першая зь іх, гэта тое, што а. Бандарук папраўдзе адзначаючы няпоўнасьць сьпіску афіцыйна вызнаваных у Беларусі краёвых сьвятых, вінаваціць за гэта неназваную Царкву, хоць ведама, што адказнай за гэтую несправядлівасьць была й застаецца, устаноўленая сілай у нашай Бацькаўшчыне, зьдзекліва апошнім часам маскаваная мясцовай аўтаноміяй, Расейская Праваслаўная Царква.

Апрача таго а. Бандарук, падпарадкаваны небеларускай царкоўнай юрысдыкцыі й далёкі ад кантакту зь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою, ды таму незнаёмы зь Ейным паглядам на гэтую справу, бяз тлумачэньняў цьвердзіць, што пашана Беларускім Сьвятым даецца ў трэйцюю нядзелю пасьля Сёмухі (Пяцідзесятніцы).

Гэткім чынам няўспомненым застаецца факт, што Расейская Праваслаўная Царква тыдзень раней прымушае беларусаў пакланяцца „святым в земле Российской просіявшім", а ўжо пасьля гэных дазваляе ўспомніць і нашых дагоднікаў Богу.

Ачоленая Я. М. Мітрапалітам Ізяславам Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ўважаючы, што адмысловае пакланеньне няймелым дачыненьня да нашае Бацькаўшчыны сьвятым чужога краю, ад якога наш народ дазнаў безьліч крыўдаў, не на мейсцы ў Ейных сьвятынях, пастанавіла замест гэтага зьвяртацца ў другую нядзелю пасьля Сёмухі па дапамогу перад Божым абліччам да Сьвятых Беларускае Зямлі, ды ўжо колькі год гэтую пастанову выконвае.

Разам з пашанай сьвятых роднага Краю Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў другую нядзелю пасьля Сёмухі адзначае й сьвята Ейнае аўтакефаліі, ды заклікае ўсіх праваслаўных беларусаў штогод ня толькі ўважыць гэты дзень, але й знаходзіць у ім натхненьне й навагу на ўзнаўленьне, ды ўмацаваньне нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ў нашай Бацькаўшчыне.

Сьцеражы Божа Беларускі Край!

З глыбокай пашанай —
**БАРЫС ДАНІЛЮК,**
Каардынатар Дзейнасьці
Кансысторыі БАПЦ

## ВАЖНЕЙШЫЯ ЦАРКОЎНЫЯ СВЯТЫ Ў ЖНІЎНІ

**7.08** (25.07 ст. стыль) — **Успенне Праведнай Анны**, маці Прасвятой Багародзіцы — прыхадское свята ў Крулёвым Мосце, Крушынянах, Сасінах, Старакорніне, Вульцы-Тэрахоўскай (прыход Кузава), Чорнай-Вялікай (прыход Гродзіск).

**8.08** (26.07) — **Св. Параскевы** — свята ў Дабрывадзе (прыход Кляшчэлі).

**9.08** (27.07) — **Св. Вялікамучаніка і Аздараўцеля Панцеляймона** — свята ў Семяноўцы і Беластоку-Засцянках.

**10.08** (28.07) — **Супрасльскай Іконы Божай Маці.** Напярэдадні свята, у панядзелак 9.08 г.г. а 14 гадзіне, з прыхода Прамудрасці Божай у Беластоку-Выгодзе, выйдзе пешае паломніцтва ў Супрасль.

**12.08** (30.07) — **Загавіны на Успенскі Пост** (чацвер).

**14.08** (1.08) — **Пачатак Успенскага Посту**, які трывае да 27 жніўня. Падчас гэтага посту абавязваюць такія ж абмежаванні, як і ў час Вялікага Посту, г.зн. алей і невялікая колькасць віна спажываецца толькі ў суботы і нядзелі, а рыбу дазваляецца толькі ў дзень Праабражэння Гасподняга. У суботу, 14.08. г.г., а 8 гадзіне, у прыходзе Беласток-Дайліды пачнецца пешае паломніцтва з Беластока ў Грабарку на святкаванне Праабражэння. Сёлетні маршрут вядзе праз Заблудаў, Трасцянку, Нарву, Кленікі, Чыжы, Орлю, Маліннікі, Кляшчэлі, Мілейчыцы і Жэрчыцы.

**19.08** (6.08) — **Праабражэнне Гасподняе.** Асабліва ўрачыста адзначаецца яно на Св. Гары Грабарцы, а таксама ў прыходах Тапаляны, Сакі, Плёскі і Новаберазова.

**28.07** (15.08) — **Успенне Прасвятой Багародзіцы.** Прыхадское свята ў Боцьках, Чыжах, Дубінах, Кляшчэлях, Беластоку-Старасельцах, Заблудаве.

Некалькімі днямі раней, 22 жніўня ў Гродне пачнецца пешае паломніцтва ў манастыр у Жыровічах на святкаванне Успення ПДМ. Арганізатары — праваслаўная моладзь з Беларусі — сардэчна запрашаюць таксама пілігрымаў з Польшчы.

# СТУДЭНТЫ ЗНОЎ НА ШЛЯХУ

Рэйд беларускіх студэнтаў „Бацькаўшчына '93" — гэта ўжо дзесятая вандроўка па Беласточчыне. Пэўна, не адзін з нас задумаецца і скажа: „Як гэты час хутка бяжыць. Здаецца, яшчэ так нядаўна, толькі што прыдумалі, а ўжо „Бацькаўшчыне" дзесяць гадоў і юбілей".

У гэтым годзе рэйд пачаўся 6 ліпеня ў Дубічах-Царкоўных, дзе было падрыхтавана Купалле. Вады ў заліве шмат, так што дзяўчаты мелі дзе кідаць вянкі. Апрача гэтага было вогнішча, песні, танцы, адным словам, гульня амаль да рання. Пасля такой ночы трэба было вельмі хутка набіраць новых сіл, каб спраўна перайсці першы этап вандроўкі з Дубіч-Царкоўных у Гайнаўку.

7 ліпеня (серада). Дарога як дарога, бывала па-рознаму, але калі ідзе некальki чалавек (а было нас каля дваццаці) заўсёды вельмі весела. У вёсках, праз якія пераходзілі, мы рабілі перапынкі ля крамы на „другое снеданне". Абавязкова трэба было таксама паспяваць і то так, каб чула нас уся вёска. А спяваць у нас заўсёды была ахвота. Івось таму, хаця дарога не была надта доўгай, у Гайнаўку мы дайшлі даволі позна. А там змучаных вандроўцаў пад свае крылы прыняў Беларускі музей.

8 ліпеня — другі дзень рэйду. Дарога вельмі доўгая (больш за 20 кіламетраў) і цяжкая, праз Белавежскую пушчу, але таксама цікавая. Мы ішлі не сцежкамі, але проста лесам па старых рэйках, якія ўжо даўно забылі грукат колаў цягнікоў. На дождж, які не пакідаў нас ні на хвіліну, ніхто нават не звяртаў увагі. Проста і да гэтага можна было прызвычаіцца. У Нараўцы чакаў нас начлег, але раней было вогнішча, песні, танцы, гульні... і зноў новы дзень сустрэў нас ля вогнішча.

А ў пятніцу — 9 ліпеня — дарога ў Семяноўку. І хаця была яна даволі доўгай, ногі самыя нас няслі. Нарэшце паказалася сонца і мы адчулі ў паветры лета, а калі лета, то і абавязкова вада. А ў Семяноўцы яе вельмі многа. Першыя крокі якія мы зрабілі, каб бліжэй пазнаёміцца з вёскай і яе жыхарамі, мы накіравалі да вадасховішча. Вада, вада... і гэтага нам сапраўды трэба было. Позмім вечарам зноў вогнішча. Цяпер супольна з „аўтахтонамі". Гэта яны ўсё падрыхтавалі. Агонь маленькі, бо пасярэдзіне вёскі, перад клубам, але атмасфера — гарачая. Апрача забавы, мы таксама крыху пагаварылі з маладымі пра Семяноўскае вадасховішча і яго праблемы. Ну і на канец, зразумела, запрашэнне на „Басовішча". І зноў ноч падалася так страшэнна кароткай.





Субота — 10 ліпеня — цудоўны, гарачы, сапраўдны летні дзень. Раніцою абавязкова купанне, а пасля дарога ў Ляшукі. Выдалася яна — страшэнна доўгай, хаця, папраўдзе, быў гэта самы кароткі маршрут. Начлег — у нашага сябры. Зразумела, што не ў хаце, але ў клуні на свежым сене. Ну і даволі добрая вячэра — вараная бульба з малаком. Вядома, у хаце так не смакуе!

Апошняе вогнішча з удзелам трох мастадонтаў з першых рэйдаў, людзей, якія былі іх пачынальнікамі, і, натуральна, песні, якія тады спяваліся.

Пэўна, у кожнай галаве блiснула думка, бышцам падсумаванне — як хутка мінае час.

Для адных хутка прайшлі гэтых дзесяць гадоў з дня першага рэйду, калі некалькі чалавек выехалі на роварах з Ягуштова каля Бельска, для іншых — гэтыя пяць дзён на нашай Бацькаўшчыне, якія пачаліся з Купалля ў Дубічах-Царкоўных. Адным і другім засталіся толькі цёплыя ўспаміны і надзея, што праз год такі ж рэйд паўторыцца зноў...

**Тэкст і фота**
**АНІ АДАМІК**

# У ВЕРАСНІ НОВЫ ЛІЦЭЙ ПРЫМЕ ВУЧНЯЎ

Пабудова новага беларускага ліцэя ў Гайнаўцы ў пэўным сэнсе набліжаецца да завяршэння. Шмат якія працы ў ім, вядома ж, будуць цягнуцца яшчэ доўга-доўга, але з верасня, як паведаміў дырэктар Яўген Сачко, настаўнікі і вучні будуць ужо займацца ў новай школе. Усе працы, якія выкананы дагэтуль, сказаў Я. Сачко, паказваюць, што будынак падрыхтуюць на 1 верасня. У палове ліпеня гатовы быў ужо другі паверх — засталося там толькі пакласці падлогу і паставіць парты. Другі паверх малюецца, а на першым і ў сутарэннях пакладзены ўжо тынк. Адно не паспеем са сталоўкай — яе плануем здаць у карыстанне праз год. Але, каб ліцэй прыстойна выглядаў, будзем усё ж дапрацоўваць яго звонку.

Нядаўна, сказаў яшчэ Я. Сачко, адбылася ў нашай школе сустрэча дырэктара будаўнічага прадпрыемства са старшынёй грамадскага камітэта пабудовы ліцэя ў прысутнасці прадстаўніка пасольства Беларусі. На гэтай сустрэчы мы вырашылі адтэрмінаваць перадачу сталоўкі, бо тыя сродкі, якія маем у гэтым годзе на пабудову, не дазваляюць нам поўнасцю яе закончыць, а значыць тыя працы, якія не будуць перашкаджаць у занятках, перасоўваем на наступны год.

На пытанне, ці будзе ставаць вучняў у новую школу, Я. Сачко адказаў, што ў гэтым годзе атрымаўся рэкорд. Упершыню школа вяла набор на чатыры аддзелы — кандыдатаў аказалася больш, чым месцаў, частка не прайшла ўступных экзаменаў. Для набору кандыдатаў, адзначыў дырэктар, напэўна паспрыяла рэкламная кампанія, якую мы правялі сярод моладзі.

У гэтым глодзе, калі верыць чуткам, якія ходзяць у Гайнаўцы, у беларускім ліцэі мо чалавек з дзесяць не прайшло матуры па польскай мове. Дырэктар Яўген Сачко прызнаў, што ў гэтым годзе матуры сапраўды не прайшло больш асоб, чым у іншых гадах, але гэта не трэба лічыць нейкай канстантай. Папросту, сказаў ён, трапіліся слабейшыя класы. Тая моладзь, якая ў гэтым годзе старалася паступіць у нашу школу, ведала пра гэта, але не думаю, каб факт гэты адмоўна паўплываў на воблік школы ў будучым і на яе папулярнасць.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# UWAGA, RADZIECCY HANDLARZE!

*Русско-польский разговорник-словарь. Складальнік В. Білевіч. Менск, выдавецка-асветніцкае агенцтва "Паблісці", 1992 г., 185 с. Наклад 100 000 паасобнікаў.*

Спярша чатыры пытанні нібыта з "*Turnieju wiedzy o ZSRR*", папулярнага ў ПНР у сямідзесятых гадах: як вы думаеце, якія часткі мовы сёння вывучаюць рускія "товарищи" па прыездзе ў братнюю Польшчу раней за ўсё? Правільна думаеце - лічэбнікі. *Dziesięć, dwadzieścia, piećdziesiąt, siedemdziesiąt (tysięcy)*; у сэнсе - "*to kosztuje*". Другое пытанне: дзе "товарищи" навучаюцца мове Міцкевіча і Пруса? І тут ваша праўда - на мытнях, на беластоцкіх ды варшаўскіх рынках (астатняе дабіраюць на вакзалах, а здараецца - і ў паліцэйскіх пастарунках). Наступнае: ці патрэбны тым "товарищам" які-небудзь прасценькі прафесійны размоўнік для ўдалага гандлю? Ёсць жа адпаведныя двухмоўныя слоўнікі для юрыстаў, медыкаў, матэматыкаў... Азіяцкі гандаль на рынку - чым не прафесія? Дык патрэбны ці не? Слушна кажаце - яшчэ як! І, нарэшце, апошняе пытанне: колькі разоў, скажам, магло б паўтарацца ў такім размоўніку слова *ile*? Два, тры, пяць, нарэшце - дзесяць? А вось тут вы памыліліся: у "русско-польском разговорнике-словаре", выдадзеным у Менску, пытанне гэтае паўтараецца ажно трыццаць разоў!

У анатацыі да размоўніка напісана наступнае (цытую на мове арыгінала): "разговорник незаменим во время частной, деловой или туристической поездки в Польшу. С его помощью вы достаточно свободно сможете обращаться на польском языке. Материал подготовлен по темам, каждую из которых завершает короткий словарик".

А цяпер пагартаем раздзелы, каб пабачыць, колькі старонак прысвечена кожнай з тэмаў.

"Речевой этикет (обращения, приветствия)" - 7 старонак; "Знакомство, семья, профессия, польские имена" - 7 старонак; "Экскурсии, выставки, музеи" - 6 старонак; "Общественнная деятельность, религия" - 2 старонкі; "Универмаг, киоск" - 14 старонак; "Продовольственный магазин" - таксама 14 старонак. Гэткі дысбаланс цалкам адпавядае мэтам і памкненням вяжаў "товарищей" у Рэчпаспалітую: прынамсі, з усіх маіх менскіх знаёмых, што ездзяць сюды з гандлярскімі мэтамі, ніводны ніколі не быў ані ў касцёле св. Крыжа ў Варшаве, дзе пахавана сэрца Шапэна, ані на магіле Алеся Гаруна ў Кракаве (хаця некаторыя з тых знаёмых маюць адпаведна вышэйшую філілагічную і музычную адукацыю). Затое кожны з іх можа падрабязна сказаць, дзе ў тых гарадах знаходзяцца самыя танныя *sklepy*.

Да відавочных хібаў слоўніка можна аднесці вельмі недасканалую транскрыпцыю: гук *ę* заўсёды падаецца як *эн*; гук *ą* - адпаведна як *он*, а таму некаторыя фразы ў транскрыпцыі на расейскую мову выглядаюць наступным чынам: "Кеды одбэндэ сен контроля цэльна?", "Тэ пакунки я вэзмэ з собон, а позосталэ прошэ вложыць", - думаю, што ў выкананні жыхароў Тамбова ці Разані (з адпаведным мясцовым акцэнтам) пачуць такі сказ будзе досыць забаўна.

Вельмі здзіўляе малюнак вокладкі: на кніжцы, выдадзенай у сталіцы суверэннай Беларусі, разам з польскім нацыянальным сцягам чамусьці намаляваны нацыянальны сцяг суседняй дзяржавы - расейскі трыколер (добра яшчэ, што без двухгаловага арла). Хаця, зрэшты, тут як раз і не варта абурацца - той, хто лічыць сваім улюбёным заняткам прымітыўны азіяцкі гандаль, хай мае сваім родным сцягам трыколер "старшего русского брата", такому як раз і дастаткова ведаць адзіную фразу "*ile to kosztuje?*" (са спецыфічнымі нацыянальна-мацернымі лексемамі); нармальны ж еўрапеец, накіроўваючыся ў Польшчу, на маю асабістую думку перш-наперш мусіць вывучыць наступныя словы: *"dzień dobry"*, *"przepraszam"*, *"bardzo proszę"* і *"dziękuję"*...

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**

# ЗЬВЯЗ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

**запрашае на рэйд**




Сустракаемся вечарам 8 жніўня (нядзеля) ў Гарадку перад Домам культуры. Далейшы маршрут:
9.08 — Бяброўнікі,
10.08 — Мастаўляны,
11.08 — Ялоўка,
12 і 13.08 — Семяноўка.
Узяць з сабою палаткі і харчы.
Кошт удзелу: 50 тысяч злотых.

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

07 - 06 - 1989 г.

Мой каментарый у "Ніву" - "Ці прайгралі мы выбары?" Дадзеныя пра Міркановіча будуць заўтра, але ўжо вядома, што атрымаў ён каля 14-ці тыс. галасоў, а яго канкурэнт - украінец Мартынюк, за якім стаяла царква - раптам каля 10-ці тыс. Мандат, ясная справа, захапіў "салідарнік" Бароўскі.

Я атрымаў 22.410 галасоў, што складае 8,5% усіх важных, аддадзеных у цэлым ваяводстве (праваслаўнік Піўнік - 28.508, г. зн. 10,8%). У Гайнаўцы і раёне галасавала на мяне няцэлых 25% выбаршчыкаў, у Бельску - каля 18%, у Беластоку - каля 6% (мала больш у Сямяціцкім раёне; здзівілі Лапы са сваім падобным працэнтам, а расчаравала Саколка).

З трынаццаці кандыдатаў у Сенат мая кандыдатура апынулася аж на пятым месцы. Акрамя двух "салідарнікаў", якія ўраганам прайшлі ў Сенат, апярэдзілі мяне толькі Шаматовіч і Піўнік, за якімі стаялі непараўнальныя з нашымі сродкі, фінансавыя і арганізацыйныя. Рэшта - васьмёх - без істотнага значэння, хоць і на іх патрацілі мільёны грошай.

Таму чацвертага чэрвеня пачаўся ў нас беларускі палітычны рух. Трэцяя сіла ў рэгіёне, паміж Кааліцыяй і "Салідарнасцю". Малая, але не настолькі, каб не лічыцца з ёю. І ў гэтым наш выйгрыш!(...)

17 - 06 -1989 г.

Залішне стрэсаў! Дні прамінаюць у нейкай вірлівасці, а так ад гэтага, што ў нашым асяроддзі няма чалавека палітыкі і да яго ролі падштурхоўваюць мяне. Пакуль так будзе, відаць, буду прымушаны неяк лідэраваць, прынамсі ідэалагічна; хоць - наогул - не бывала ў гісторыі так, каб добры пісьменнік з'явіўся і добрым палітыкам...

(...) У Геніка Міркановіча ўражанні з Англіі падобныя - эмігранты, адарваныя ад рэчаіснасці, могуць загаварыць цябе да бяспамяці. (...)

22 - 06 - 1989 г.

(..) Прыезд "Васілька" з Нью-Йорка, відаць, нямала нача́ўп замяшання у ... адпаведных мясцовых органах. (...) "васількоўцаў" ашаламілі дзве з'явы: наша беднасць, "афрыканізм" вёсак ды мястэчак, і процібеларускі шавінізм. Але іхныя выступленні, знаходжанне тут, знакаміта ўбудоўвае тутэйшы беларускі дух. (...)

26 - 06 - 1989 г.

Звар'яцелы чэрвень! Такога яшчэ не было.

27 - 06 - 1989 г.

Амфітэатр у Беластоку 25-га! Толькі сёння хапае сілаў спакойна запісаць, што здарылася ў ім заўчора: сапраўднае Свята Беларускай Культуры. Народу, як ніколі! - узвышаецца бел-чырвона-белы сцяг; у такіх жа колерах і дэкарацыя эстрады, над якой - Пагоня (заслуга Стахвюка і студэнтаў). Прамова Барскага па-беларуску здаецца ўжо нечым звычайным. І канферанс (Ласкевіч і Бушкі). Выступаюць нашы калектывы, але і знакамітыя "Лявоны" з Гарадзеншчыны, і "Васілёк" з Нью-Йорка, якому ўчыняюць авацыю (перш за ўсё таму, што гэта - беларусы з Амерыкі!). Фінал: калектывы пяюць "Люблю наш край", шматтысячная публіка ўстае і далучаецца, яшчэ нязладжана, не ўсе ўмеюць гэты наш беластоцка-беларускі гімн (сёй-той ужо стаіць "на зважай"!). Ніколі не бачаная дагэтуль сітуацыя! Хлопцы і дзяўчаты з гарадзенскай "Паходні" - у эйфарыі; з Нью-Йорка тыя глядзяць ашаломленыя; і тыя, і тыя, кажуць: самая вялікая ў іх жыцці беларуская імпрэза! - Горад загаварыў на беларускай мове, пакуль што на момант усяго, ды тое, аднак, адбылося, адбылося, адбылося.

Уночы - студэнцкае Купалле над Супраслю, на сядзібе Латышонкаў. Самае тлумнае і самае агульнабеларускае, усебеларускае; Усход і Захад.

Гудзела ды рагатала Купалле, а ў пакойчыку на паверсе Латышонкавай дачы - перамовы Беларускага Клуба з прадстаўнікамі эміграцыі наконт помачы для нас у разгортванні беларускага руху. No problem! - Сёння пад раніцу ўдала напісалася мне "Да беларусаў на Чужыне!" (Валік павязе; і дэкларацыю ў Туронкавай рэдакцыі).

Гэта працяг чацвёртага чэрвеня. Перасталі быць слабымі! Як быццам у пацвярджэнне гэтага - учарашнія вечаровыя канцэрты ў беластоцкай філармоніі (мала не завалілася ад ураганных апладысментаў!) "Дубіны" and "Васілёк". (...)

*(Працяг будзе)*

Тлумачэнні:

*- "Васілёк" - танцавальны гурток беларускай моладзі Нью-Йорка і ваколіцаў, якім кіруе прафесар тутэйшага універсітэта Ала Орса-Рамана;*

*- "Паходня" - грамадскі клуб адраджэнцаў у Гародні, адзін з першых у тадышняй Беларусі;*

*- Валік - Валянцін Сельвясюк, маладабеларускі дзеяч Беластоцкага Краю, адзін з заснавальнікаў Беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы; дыпламант універсітэта Прайстн.*

Новыя вершы

**БАРАЦЬБА**

У мёртвым сусвеце палаючых глыб
Між розных сузор'яў плыве Млечны шлях.
У ім, як у рэчцы з лавінаю рыб,
Як кветка купаецца, наша Зямля.

Яна, як аазіс між мора пяскоў,
Стварыла адзіная ўмовы жыцця,
І выйшла жыццё са смяротных акоў
І стала зямным атрыбутам быцця.

Аднак смерць туды запаўзла быццам спрут,
Бо дзе ёсць жыццё — там існуе яна,
Там плач ёсць няшчасця, няволі хамут,
Забойства, каварства, і жах, і вайна.

Жыццё не здаецца са смерцю ў баю
І родзіць ўсё новых і свежых салдат,
Якія ідуць з ёй змагацца ў страю
І толькі — наперад, ніколі назад.

Да смерці з падмогай прыйшоў чалавек,
Ён нішчыць і творыць жыццё на зямлі,
Ён катам стаў джунгляў, азёраў і рэк,
А сам абсявае пшаніцай палі.

Ён выдумаў кулі, нажы і штыкі,
Набегі крывавыя на гарады,
І ён ажыўляе ў пустынях пяскі
Праводзіць каналы, гадуе сады.

Ён вытварыў бомбы, якія бы ў міг
Зямлю ўсю спалілі гурмою ракет
Тады яна, як мільярды камлыг,
Лятала б падобнай да іншых планет.

Аднак смак жыцця адганяе яго
Ад думак, каб знішчыць прыроды ачаг.
Нянавісць і смерць не распаляць агонь
Які б да нябыту спаліў у нас страх.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# "БАСУВА" IS DEAD

Чацверты Фестываль музыкі Маладой Беларусі "Басовішча-93" скончыўся. Сёлета прайшоў ён у блакітна-воблачнай танальнасці, калі гаварыць пра мастацкае афармленне імпрэзы. Аўтарам гэтага афармлення, як і год таму, быў Лявон Тарасэвіч. У гэтым годзе дадатковым элементам фестывальнага іміджу была - акрамя значка, плаката і палатнянага фону сцэны - гэтак званая "Басува" (націск на "у"). Што такое "Басува" - не было вядомым аж да самога фестывалю. Не ведаў гэтага таксама крылаты "Басовішчух" (націск на "о"). "Басувай", якую арганізатары так доўга трымалі ў сакрэце, аказалася машына - syrenka, размалёваная ў фестывальныя колеры - белыя воблачкі на фоне сіняга неба.

"Басуву", гаворыць Лявон Тарасэвіч, купілі ў Варшаве і напярэдадні "Басовішча", у сакрэце, прыгналі ў Гарадок. Тады я і стаў яе размалёўваць. Працу закончыў у пятніцу 16 ліпеня а другой гадзіне над раніцай. "Басува" мела стацца сімвалам фестывалю: ёю ў пятніцу прывезлі мы Сакрата Яновіча, які афіцыйна запачаткаваў "Басовішча". Пасля імпрэзы мела яна ездзіць па Беласточчыне...



"Басува", на жаль, нідзе ўжо не паедзе. Ноччу, з нядзелі (18 ліпеня) на панядзелак, невядомыя злачынцы ўшчэнт разбілі машыну.

У панядзелак, гаворыць Л.Тарасэвіч, пазваніў мне войт Яўген Семянюк і паведаміў, што аўтамабіль разбіта. Зразу мы думалі, што можа разбітая нейкая шыба або што. Калі прыехалі ў Барык, каб пабачыць што сталася, то тое, што мы там убачылі перайшло ўсякае спадзяванне...

"Басува" ў час фестывалю ды таксама і ў нядзелю (тады адбываўся народны фэст) ездзіла там і сям па Барыку - як і выпадала б фестывальнаму сімвалу. Ездзіла так сабе,



пакуль не сапсавалася. Арганізатары пакінулі яе недалёка сцэны. У панядзелак разбітае аўто стаяла ў якіхсьці метрах 200 ад таго месца, у якім пакінулі яго арганізатары. На гэтым шляху "Басува" мела некалькі "прыпынкаў", на якіх злачынцы рабілі сваю справу. У адным месцы злачынцы таўклі лямпы і шыбы, у іншым разганялі машыну і білі ёю ў дрэва (сведчыць пра гэта фарба на адной з соснаў). На апошнім сваім "прыпынку" машына не мела ніводнай лямпы, шыб, крэслаў і шмат чаго іншага. Злачынцы пакінулі пасля сябе шмат слядоў, між іншым, адбіткі чаравікаў на бляссе, дзе-нідзе кроў.

Гарадоцкая паліцыя, гаворыць Лявон Тарасэвіч, не спяшаецца з гэтай справай. Не паквапіліся нават у Барык, каб забяспечыць сляды злачынства. Мы самі накрылі самаход, каб дождж не абмыў слядоў, якія пакінулі злачынцы.

Лявон Тарасэвіч лічыць, што справа дэвастацыі аўтамабіля мае і свой палітычны выгук - машына была спецыяльна падрыхтаваная пад імпрэзу, ён сам яе размаляваў, ну і ў канцы "Басувай" на "Басовішча" прыехаў Сакрат Яновіч.

З іншым пунктам погляду выступае паліцыя. Ніхто з гарадоцкіх функцыянераў не скаментаваў справы знішчэння "Басувы". Мы ў гэтай справе некампетэнтныя, гаварылі. А хто ў такім выпадку кампетэнтны? Кампетэнтным аказаўся прэсавы прадстаўнік ваяводскай камендатуры ў Беластоку Кшыштаф Каспшак. Kwalifikacja czynu: wybryk natury chuligańskiej połączony z zaborem mienia. Policja nie dopatruje się wydźwięków politycznych, mimo że samochód należał do jednego z organizatorów festiwalu pt. "Basowisko".

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота Міры Лукшы і Лёніка Тарасэвіча**

# СПЯВАЛІ ПАЛЯКІ І БЕЛАРУСЫ

Нішто так не яднае людзей, а тым больш блізкіх суседзяў, як песня і танец. Сведчыла аб гэтым шматлюдная культурная імпрэза — I Мастацкія сустрэчы Беласток-Гродна, якая адбылася 25 ліпеня гэтага года ў Беластоцкім амфітэатры. Ініцыятыву Беларускага грамадска-культурнага таварыства арганізаваць сустрэчы падтрымаў Саюз палякаў у Беларусі. Фінансава імпрэзу забяспечыла Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.

І так у апошнюю нядзелю ліпеня ў Беласток упершыню прыехалі польскія мастацкія калектывы з Гродзеншчыны: танцавальна-харавы „Леxіці" і харавы „Рэха" з Гродна ды „Лідзяне" з Ліды, а таксама беларускія песенныя калектывы з Беласточчыны: па два з Бельска-Падляшскага і Беластока, Краснага Сяла (Боцькаўская гміна), з Дабрывады (Кляшчэлеўская гміна), з Гарадка і са Старога Ляўкова (Нараўчанская гміна), а таксама вядомая беластоцкая спявачка Ала Дубэц.

Міжнароднае культурнае свята, на якім трымалі рэй Валянціна Ласкевіч і Рышард Кацынэль, праходзіла пры цёплым сонечным надвор'і на працягу трох гадзін. На ім прысутнічалі, між іншым, пасол Беларусі ў Польшчы Уладзімір Сянько, віцэ-міністры культуры: Барыс Святлоў (Беларусь) і Міхал Ягела (Польшча), беластоцкі ваявода Станіслаў Пруціс, старшыня Галоўнага праўлення БГКТ у Польшчы Ян Сычэўскі і намеснік старшыні Саюза палякаў Беларусі Тадэуш Малевіч. Беларускія патрыятычныя, фальклорныя і сучасныя песні ды народныя польскія танцы, а таксама абрадавая дажыначная сцэнка спадабаліся ўсім. Выступленні калектываў узнагароджваліся не толькі бурнымі воплескамі, але і ў гэты раз — памятнымі келіхамі. Канцэрт запісвала Беларускае тэлебачанне.

I Мастацкія сустрэчы Беласток-Гродна закончыліся супольным спяваннем польскай песні „Piękna nasza Polska cała" і беларускай „Люблю наш край, старонку гэту..."

Дык на наступнай сустрэчы за год у Гродне!

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



*Сустрэчы адкрылі: (злева) Станіслаў Пруціс, Барыс Святлоў, Міхал Ягела і Ян Сычэўскі.* **Фота Сяргея Грынявіцкага**

# ЯК "ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ" Ў АЎСТРАЛІІ АДПАЧЫВАЛІ

Галоўная мэта Федэрацыі беларускіх арганізацый Аўстраліі - зберагчы культуру і нацыянальную свядомасць тутэйшых беларусаў, давесці да Вольнага Свету праўду аб Бацькаўшчыне. Апошнім часам, калі шматпакутную Беларусь напаткала новая бяда - Чарнобыльская навала, у беларускага асяроддзя з'явілася яшчэ адна задача - дапамагчы людзям, што пацярпелі ад яе, і перш за ўсё - маленькім беларусам. Пры Федэрацыі быў створаны Чарнобыльскі фонд дапамогі пацярпелым, на заклік якога адгукнулася мо палова ўсіх беларусаў Аўстраліі. У выніку ахвяраванняў было сабрана 37 000 долараў - гэта дало магчымасць закупіць рэнтгенаўскі апарат, аднаразовыя шпрыцы, а таксама харчы і ласункі для Гомельскай Абласной бальніцы.

Маладыя аўстралійскія беларусы таксама падхапілі ініцыятыву бацькоў: пры царкве БАПЦ у Мельбурне зрабілі дабрачынны баль, сродкі ад якога былі накіраваныя на дапамогу дзецям Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Але дагэтуль мы ніяк не маглі наладзіць супрацоўніцтва з адпаведнымі арганізацыямі Беларусі: напрыклад, пакуль на нашую прапанову аб супрацоўніцтве адгукнуўся хіба адно Сп. Грушавы, але ён запэўніў, што каб прывесці на адпачынак пацярпелых дзетак, патрабуюцца вялікія грошы на дарогу і іх утрыманне. Сярод аўстралійскіх беларусаў многа пенсіянераў, і таму сабраць патрэбную суму грошай не атрымалася. Шкада толькі, што пра той няўдалы прыезд вельмі непрыхільна пісалася ў друку, перш за ўсё - у нямецкім.

І вось, праз нейкі час нарэшце наладжаны кантакт са Сп. Валерыем Лісітчыным, дырэктарам экалагічнай службы г. Магілёва. Было дасягнута пагадненне, што ў Аўстралію на адпачынак прыедзе пятнаццаць дзетак і двое праваднікоў. Але невядома чаму прыехала толькі адна праваднічка і дзесяць дзетак - чатыры хлопчыкі і шэсць дзяўчатак. Затое ў групе быў сам дырэктар, Сп. Валерый Лісітчын, ягоныя дачка і сын... Шчыра кажучы, сустрэча тая нас расчаравала: ніводны дзіцёнак не гаварыў пабеларуску, а тым старым беларусам, у якіх яны жылі, сказалі адкрытым тэкстам: мы, маўляў, вашага "каравага языка" не ведаем і ведаць не жадаем. Заўважце, што сярод тых апекуноў было шмат людзей, якія былі вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну, каб захаваць сваю беларускасць. Вельмі нашыя беларусы абурыліся: трое з іх нават не вытрымалі здзекаў ды паадвозілі дзяцей да каардынатараў.

Мы наладзілі мноства экскурсій ды вандровак па розных гістарычных мясцінах, у заасад, на мора, паказвалі ім нашыя Праваслаўныя Святыні, беларускія школы... Але дзетак гэта ўсё не цікавіла - увесь час яны гулялі ў карты. Паспрабавалі, нарэшце, заахвоціць іх да Праваслаўнае Веры - ніхто не вытрымаў у царкве больш чым адну хвіліну.

Калі, нарэшце, прывезлі мы тых дзетак у спецыялізаваную клініку, дык высветлілася наступнае: нікаму з іх не патрабавалася лячэнне, ніхто не меў аніякіх радыяцыйных хваробаў!

Але і гэта яшчэ не ўсё: высветлілася, што многія з тых дзяцей маюць высокапастаўленых бацькоў, часам - былых партыйных дзеячоў, і што яны пад выглядам "пацярпелых ад Чарнобыльскай навалы" пабывалі на адпачынку ў многіх краінах свету - некаторыя і з бацькамі...

Вось так адпачылі "чарнобыльскія пацярпелыя" ў нашай краіне...

Падсумоўваючы вышэйнапісанае, скажу адно: калі нашая шматпакутная Бацькаўшчына знаходзіцца ў вялікім крызісе, калі мноства дзяцей маюць сапраўды невылечныя хваробы, як гэта ў кіраўнікоў рознага кшталту знаходзіцца нахабства паводзіць сябе падобным чынам? Не кажу ўжо пра тое, што гэтак у вачах беларускай дыяспары дэскрэдытуецца святая ідэя дапамогі Беларусі!

Натуральна, беларусы Аўстраліі і надалей збіраюцца дапамагаць сваім суайчыннікам. Але тым, хто едзе да нас, варта запомніць: не трэба русіфікаваць нас і насаджваць азіяцкае дзікунства, якое прынеслі ў Беларусь мангольска-расейскія варвары!

**ПАЎЛЮК ДУБРОЎСКІ**
**Аўстралія, Мельбурн**

P. S.
Нядаўна дазнаўся, што шаноўны Сп. Лісітчын хоча прывезці ажно трыццаць чарговых "пацярпелых" дзетак - пэўна, сваякоў. Шукае каардынатара. Спадзяюся, што гэтым разам аўстралійскія беларусы будуць разумнейшыя...

# КАЛАНІЯЛЬНЫ СІНДРОМ

Прачытаўшы артыкул Міры Лукшы "Разгаварывацець... Народны фронт" у 26 н-ры вашай газеты, хачу падзяліцца сваімі думкамі на гэты конт. Сцэна ў Менску, нявольнай удзельніцай якой давялося стаць аўтарцы артыкула, яшчэ раз яскрава сведчыць: менталітэт беларуса ў былой БССР як быў, так і застаўся каланіяльным. Свядомы беларус у сталіцы сучаснай "незалежнай" Рэспублікі Беларусь выдае ці то на "народнафронтаўца" (г. зн. "экстрэміста" ды "нацыяналіста"), ці то на "дзеравеншчыну", ці то проста на нейкае цуда-юда. Так, урад прыняў-такі законы "Аб культуры", "Аб дзяржаўнасці беларускай мовы", але яны пакуль што або зусім не выконваюцца, або выконваюцца вельмі марудна, бо законы гэтыя сабатуюць і шматлікія чыноўнікі розных рангаў, і зрусіфікаваныя беларусы, якія цураюцца роднай мовы.

Так, Беларусь нарэшце стала самастойнай і незалежнай, але хіба толькі на паперы. Бо мала фармальна аб'явіць аб сваёй палітычнай і эканамічнай незалежнасці; трэба дамагчыся і незалежнасці культурніцкай. А яна пачнецца толькі тады, калі, нарэшце, родная мова на вуліцах, вакзалах, метро, прыпынках гарадскога транспарту будзе ўспрымацца цалкам натуральна, і калі здзекі і кпіны розных "мальчиков" накшталт апісаных аўтаркай артыкула, будуць выклікаць абурэнне не толькі "нацыяналістаў" ды "экстрэмістаў" накшталт Міры Лукшы, але і любога чалавека. Бо інакш так і застанецца Рэспубліка Беларусь сапраўднай калоніяй Масквы, і грош цана такой незалежнасці!..

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ВОСЬ ЖЫЦЦЁ...

Знайшлі яго, непрытомнага, у цягніку. „Ехала" ад яго дэнатуратам. Вядома, алкаголік, — пракаментавалі ўсе. А чаму ён такі стаў, ведаюць толькі ён сам і яго сям'я.

А гэта ўсё праз тую, якую пакахаў так моцна і шчыра, на ўсё жыццё.

Былі разам ужо ад пачатковай школы. Калі Косця вярнуўся з арміі, пабраліся шлюбам. Нарадзілася ім дачка. Юліта гаспадарыла дома, Косця працаваў у сталярні. Быў ён добрым майстрам, зарабляў добра на прадпрыемстве, а траплялася справа і пасля работы.

Гэта хіба дабрабыт перавярнуў у Юліцінай галаве: пачала яна вадзіцца з іншымі. Муж прасіў, пераконваў, каб жонка паводзіла сябе прыстойна, у рэшце рэшт з адчаю і жалю пачаў выпіваць. Тады Юліта са сваім каханкам выгнала Косцю з дому, падала ў суд на развод і аліменты. Развялі іх пасля другой справы. Аліменты Косця плаціў і на дзіця, і на беспрацоўную былую жонку. Юля з каханкам жылі сабе ў доме, збудаваным Косцінымі рукамі.

Косця пайшоў жыць да бацькоў. Апусціўся зусім. Жыць яму не хацелася, піў усё больш і больш. Гарэлка і піва ўжо не дапамагалі, узяўся за дэнатурат... Звольнілі Косцю з працы. Добраму майстру заўсёды, аднак, траплялася работа, але і так усё ішло на алкаголь. Так да гібелі скаціла Косцю жыццё.

**АЎРОРА**




## ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

### ЧАСТКА VI

Апошнія тыдні прынеслі вестку, што пакуль не можа быць яшчэ гутаркі аб нацыянальнай беларускай арміі. Вестка гэта тычылася таго, што вядомы змагар за беларусізацыю арміі палкоўнік Мікола Статкевіч прысудам выкінуты з арміі. Чаму? Таму што, маўляў, займаўся ў арміі палітычнай дзейнасцю, а такая дзейнасць сёння ў арміі забаронена. Сапраўды, Мікола Статкевіч стаяў на чале Беларускага згуртавання вайскоўцаў, якое вяло цяжкае змаганне за нацыянальны характар беларускай арміі. Мне некалькі разоў давялося слухаць публічныя выступленні палкоўніка Міколы Статкевіча. Былі гэтыя выступленні палымяныя, але разам з тым насычаныя фактамі і напоўненыя болем і клапатлівасцю за нацыянальны характар беларускага войска. Здавалася б, што для маладой суверэннай дзяржавы — якой, калі не ёсць, дык павінна быць Рэспубліка Беларусь, такога тыпу чалавек з'яўляецца сапраўдным скарбам і што ў сувязі з тым павінен мець поўную падтрымку з яе боку. Так, аднак, не сталася. Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, а мабыць і ўвесь урад, быццам насуперак усякаму здароваму сэнсу, дэманстраваў зусім незразумелую непрыхільнасць да палкоўніка Міколы Статкевіча. Яго арганізацыя — Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў — афіцыйнымі вайсковымі і ўрадавымі чыннікамі трактавалася як свайго роду стрэмка, якую трэба абавязкова вырваць з вайсковага і дзяржаўнага арганізма. Імкнучыся да расправы над Міколам Статкевічам і не знаходзячы верагодных для гэтага нагодаў, былі ў рэшце рэшт знойдзены прычыны ўяўныя. Статкевіч быў прыцягнуты да суда, які закінуў яму нелегальную палітычную дзейнасць у арміі і ў сувязі з гэтым выгнаў з войска Рэспублікі Беларусь.

Варта бліжэй прыгледзецца да гэтага здарэння. Мы ўжо гаварылі, што няма беларускай арміі і што тое войска, якое дыслакуецца ў Беларусі, мае рускі характар. Зразумела, што вайсковыя беларускія ўлады моцна зацікаўлены ў захаванні сённяшняга, гэта значыць рускага характару беларускай арміі. Вядома, што такога тыпу намаганні маюць палітычны характар, таксама як палітычны характар мела імкненне Статкевіча і яго Згуртавання беларускіх вайскоўцаў да таго, каб беларуская армія сапраўды стала беларускай. У такой сітуацыі напрошваецца слушнае пытанне, чаму не былі асуджаны і выкінуты з беларускай арміі тыя арганізацыі, якія настойліва бароняць рускі характар беларускай арміі, а быў асуджаны і выкінуты з арміі палкоўнік Статкевіч, які імкнуўся да нацыяналізацыі беларускага войска? Адказ на так пастаўленае пытанне не вельмі просты — сучаснае кіраўніцтва беларускай арміі, а таксама суд сучаснай Рэспублікі Беларусь лічаць, што рускі характар беларускай арміі ёсць законны, а ідэя яе беларусізацыі з'яўляецца беззаконнем. Адным словам — усё наадварот. Здаецца мне, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца адзінай краінай свету, у якой прыхільнікі антынацыянальнага характару яе арміі карыстаюць з усіх выгадаў і апекі з боку дзяржавы, а прыхільнікі нацыянальнага характару дзяржаўнага войска, становяцца пад суд і выганяюцца з арміі. Ці можна прыдумаць нешта больш недарэчлівае і абсурднае? Такое, мабыць, магчыма толькі ў Беларусі, якая дагэтуль нічым выключным не вылучалася, дык сёння вылучаецца выключнымі праявамі нацыянальнага абсурду.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК*

### Я ВУЧУСЯ МАЛЯВАЦЬ

Я вучуся малявацъ.
Свой малюнак паказаць
Мастаку ахвота.
Не малюнак - фота!

Ён глядзіць
І хмурыць бровы:
Возерам ідуць каровы,
Рак для іх пантофлі шые,
На рагах палаюць дровы,
Скачуць шчупакі па шыі...
Скасавурыўся мастак
І сказаў:
- Усё не так.
Шылам
Можа рак
Параніць...—
І малюнак мой
Ён правіць.
Каб усё прыняць на веру,
Пагля дзіце на паперу:
Па траве плывуць каровы,
А на сёдлах сохнуць дровы,
Рак зімуе пад карой,
Над возерам - рыбны рой...

Рады мой настаўнік:
- Годзе!
Тут усё, як і ў прыродзе.
Не дадаць і не адняць.
Так вучыся малявацъ!

З той пары вось так вучуся:
І малюю, і вярчуся.
Я надумаў многа дзіў,
Пешкі ў Афрыку схадзіў:
Там ужо няма звяроў
Непрыручаных...
Няма ў Індыі кароў
Да слупоў прыкручаных.

Гэтым летам, марачы,
Пра дзівосы Нарачы, -
Быў і там.
Быў я і ў Пушчы:
Светлы край мой,
Край відушчы!

Дзіва з дзіваў:
На Дзвіне,
Можа, нават у Дзісне,
Цуд жыве ў чаўне
З галля -
І малюе так, як я!



*На свяце паэзіі перад помнікам Янку Купалу ў Менску.* **Фота М. Лукшы**

## РЫГОРКАЎ ГОСЦЬ

Рыгорку ўсяго пяць год, і не дзіва, што жывога вожыка ён бачыў упершыню. Глядзеў круглымі ад здзіўлення і захаплення вачанятамі на шэры калючы клубочак, які прынёс яму ляснік - дзядзька Цімох. Бегаў вакол клубочка, прысядаў нізенька, нават на жывот клаўся побач, а ўсё роўна нічога не разгледзеў. Ні ножак, ні галавы.

Выйшла на двор баба Зося, убачыла вожыка і Рыгорку, у якога ўжо слёзы набеглі на вочы, і параіла:

- Ты, унучак, не сядзі так блізка каля яго. Вожык баіцца цябе, таму і скруціўся ў клубочак.

- Чаго ж яму баяцца мяне? - здзівіўся Рыгорка. - Я толькі хачу, каб ён пагуляў са мной крышачку.

- Гэта табе гулі. А яму гора...

- Якое гора? Хіба яму не падабаецца ў нас на двары? - спытаўся Рыгорка.

- А ты сам падумай, - параіла баба Зося.

Рыгорка схаваўся за вугал хаты і пачаў назіраць за вожыкам здалёку. Нейкі час шэры клубочак ляжаў нерухома, потым заварушыўся, з вострых іголак раптам высунуўся лычык. Клубочак прыўзняўся, падужэў і, хуценька-хуценька перабіраючы кароценькімі ножкамі, пакаціўся па зямлі. Рыгорка радасна засмяяўся і кінуўся да вожыка. Але ў тую хвіліну вожык пераварыўся ў шэры клубочак і знерухомеў. Рыгорка пастаяў каля яго, уздыхнуў і адышоўся.

І так працягвалася многа разоў. Застаўшыся адзін, вожык ажываў і з усіх ног кідаўся наўцёкі. Пачуўшы крокі, скручваўся ў клубочак. Каб ён і сапраўды не ўцёк, Рыгорка ўсе дзіркі ў двары пазакладваў цэглай і дошкамі. Стараўся паддобрыцца да вожыка: нанёс пачастункаў - яблыкаў, цукерак, малака ў бляшанцы. Расказаў, які цудоўны дамок зробіць яму тата, калі прыйдзе з работы. Вожык слухаць слухаў, але іголкі ў яго паранейшаму былі натапыраныя і раскручвацца ён не спяшаўся.

- Што, не хоча з табой сябраваць? - спыталася баба Зося.

- Не хоча, - сумна адказаў Рыгорка.

- Напалохаўся. Маленькі яшчэ, неразумны. Упершыню, мусіць, ад дому адбіўся.

- А дзе яго дом, бабуля?

- У лесе.

- І ў яго ёсць мама?

- А як жа! І тата, і мама, і брацікі...

Нейкі час Рыгорка сядзеў моўчкі, углядаючыся ў бок лесу, нібы хацеў разгледзець там, у густым хвойніку, дамок, у якім жыве дружная сям'я вожыкаў.

- А як ён згубіўся, бабуля?

- Ды ўжо ж, мусіць, неслух такі, як і ты. Мама, можа, не раз казала: "Не бегай далёка ад дому! Не бегай!" А ён не слухаўся. Вось і трапіў да дзядзькі Цімоха ў шапку.

- А мама з татам бядуюць недзе, - са спачуваннем паглядзеў Рыгорка на вожыка.

- Ды ўжо ж! З ног збіліся шукаючы...

- Бабуля! - гучна паклікаў Рыгорка праз колькі хвілін. - Няхай будзе так, быццам вожык да мяне ў госці прыходзіў. А цяпер яму трэба дадому збірацца, бо хутка сцямнее і яго мама сварыцца будзе...

Баба Зося ўважліва паглядзела на ўнука.

- Толькі ён можа заблудзіцца, маленькі яшчэ... Давай мы, бабуля, занясём яго ў лес...

- Ідзі, давядзецца занесці. Няхай там бацька вушы надзярэ гэтаму ўцекачу-неслуху...

Рыгорка ўявіў, як тата-вожык будзе шукаць у калючым клубочку вушы, каб надраць іх, ды сам толькі паколецца, і весела зарагатаў. Гледзячы на яго, заўсміхалася і баба Зося.

Госць - гэта так весела!

**МАРЫЯ ФІЛІПОВІЧ**

- У мяне было дзесяць яблык, а я з'еў два. Колькі яблык засталося? - пытае бацька дачку, якая сёлета пойдзе ў першы клас.

- Не ведаю! У прадшколлі мы рахуем толькі на бананах і апельсінах.

* * *

- Што табе напамінае сваім кшталтам Італія?

- Гумавы бот.

- Чаму гумавы?

- Бо навокал яго - вада.

**Я. ЗАРЭЧНЫ**

### ДАРАГАЯ "ЗОРКА"!

Першага чэрвеня 1993 года ўсе вучні і настаўнікі Пачатковай школы ў Нараўцы адзначалі Свята Дзіцяці (просім прабачэння за спознены ліст!).

Урачыстасць пачалася а 9 гадзіне. На самым пачатку дырэктар школы пажадаў нам усяго добрага і пазнаёміў нас з цікавым планам дня. Першым пунктам праграмы быў конкурс, у якім нашыя спевакі стараліся выступаць так, як вядомыя артысты. Дапамаглі ім у гэтым магнітафонныя касеты з выбранай песняй і адпаведная вопратка. Конкурс быў цудоўны, а ўдзельнікаў вельмі многа! Пасля яго заканчэння іграў наш школьны інструментальны ансамбль "Прэтэкст". Тады якраз пачаліся кірмаш ужыванай кніжкі і кніжная латарэя. А 11 гадзіне былі наступныя конкурсы: дэкламатарскі, спартыўны і малявання. У дэкламатарскім конкурсе вучні чыталі ўлюбёныя вершы. Дзеці спаборнічалі таксама ў маляванні на асфальце. Усе "творы" былі высока ацэнены. У спартыўным конкурсе ўдзельнічала таксама шмат вучняў. Заключэннем яго быў футбольны матч вучняў восьмага класа з малодшымі класамі.

У гэты дзень удзельнікі конкурсу атрымалі ўзнагароды, а ўсе вучні пачастунак: марожанае, пончыкі і апельсінавы напой.

Дзень Дзіцяці мы правялі весела і ўдала. Цікавіць нас, як адзначылі сваё свята вучні ў іншых школах.

Да пабачэння!

**Вучні пятых "а" і "б" класаў у Нараўцы**

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

### ЛАВІЦЬ КУРЫ

У гульні можа прымаць удзел вялікая колькасць дзяцей. Адзін з удзельнікаў - певень, астатнія - куры. Пеўню завязваюць вочы хустачкай. Ён растаўляе рукі і гоніць курэй пад печ:

- Кыш пад печ, кыш пад печ...

Потым певень пытае:

- А колькі вас ёсць?

- Колькі ў лесе дроў!

Куры разбягаюцца, а певень ловіць іх з завязанымі вачыма.

Кожную курыцу мусіць злавіць тры разы. Пасля ўсе сядаюць на лаву, певень скручвае пытку з хусткі або з ручніка. З кожнай курыцай у яго адбываецца размова:

- На чым сядзіш?
- На ганачку.
- За што трымаешся?
- За клямачку.
- А што гэта збоку?
- Бочка.
- А што ў бочцы?
- Мёд.
- А каму есці?
- Пану і мне, а пеўню нос у смале.

Тады певень б'е пыткай курыцу, тая ўцякае і хаваецца. Калі ж курыца на пытанне "Каму есці?" адказвае "Пеўнік, певунок, для цябе мядок", - певень яе не чапае, а пераходзіць да наступнай.

# ШЧАСЦЕ

Быў адзін з тых летніх дзён, якія бываюць, мусіць, толькі ў Беларусі. Сонца пячэ як мага, а гарачыні няма: лішак яе паглынаюць і рака, і зараснікі аеру ды чароту, і густыя паплавы, і непралазны алешнік ды лазняк, і бярозы, і хвоі, і ўсялякая зеляніна, што жыве навакол, дыхае, шамаціць і запаўняе не толькі прыроду, але і душу чалавека. Не відаць людзей, не чуваць, але гоману досыць і без іх: адны конікі сваім цырканнем могуць заглушыць усіх людзей, а тут яшчэ кукуюць жаўтабрухія жабы, заліваюцца мітуслівыя птушкі ды гудуць мясістыя чмялі.

Усім радасна ў такі дзень. Радасна і мне. Радасна і вунь таму хлопчыку год васьмі, што спускаецца згары, падскакваючы на адной назе ды махаючы белым дубцом.

Мы сустракаемся з ім на мосце. Ён прыпыняецца і глядзіць на мяне так, нібыта хоча нешта сказаць. Радасць, шчасце так і пырскаюць з яго блакітных вачэй. Я разумею яго. Калі і я гатоў усіх абняць у гэты жыватворны дзень, дык што ж павінна адбывацца ў яго маленькім чыстым сэрцы? Я лагодна ўсміхаюся яму, ківаю галавой і кажу:

- Добра жыць на свеце, браток, га?

Тварык хлопчыка засвяціўся яшчэ больш, але ён нічога не сказаў. Ды і што ён мог сказаць? Мы і без слоў разумелі адзін аднаго.

Я паціху ішоў міма, а хлопчык, нібы той сланечнік, паварочваў следам за мной свой круглы тварык. І з выразу вачэй яго таксама пырскала шчасце, і таксама здавалася, што ён вось-вось нешта скажа. Скажа, што надта прыемна ў такі дзень баснож скакаць па мосце ды махаць свежым дубцом, што ў грудзях яго цяпер вельмі цесна і адтуль нешта выпірае, што ўвесь свет вельмі прыгожы, што дзядзька, якога ён сустрэў на мосце, таксама прыгожы і добры, ды і наогул усе дзядзькі і цёткі прыгожыя і добрыя... Ён нічога не казаў толькі таму, што не ўмеў выказаць такіх думак і пачуццяў. Ды яно і не трэба было - я і так усё разумеў. Хіба я сам калісьці не быў такім, як ён? Хіба я сам не адчуваў радасці жыцця? Асабліва ў такі цудоўны дзень.

Я яго разумеў. Але ён, відаць, гэтага не ведаў, бо ўсё глядзеў мне ў вочы, нібы чагосьці чакаючы ад мяне. Ён заліваў мяне сваім шчасцем, а я ў адказ нічога не мог яму даць. Для яго маёй шчырай і ветлівай усмешкі было мала. Мне трэба яму нешта сказаць. Але што? Што яму сказаць, каб перадаць усю тую цеплыню, якую я да яго адчуваю? А мне засталося ступіць толькі адзін крок - і мы разміёмся. Разміёмся, можа, навекі.

- Як цябе завуць? - сказаў я нарэшце, каб толькі не маўчаць.

Сказаў - і зараз жа пачырванеў ад сораму: хлопчык нічога мне не адказаў. Сваім інстынктам ён, відаць, зразумеў, што словы гэтыя сказаны так сабе, абы сказаць. Мала таго: твар яго перастаў свяціцца, нават неяк балюча скрывіўся. А потым... потым з грудзей яго вырваўся крык!..

Не адзін год прайшоў з таго часу, а голас хлопчыка і цяпер гучыць у маіх вушах.

Гэта быў шчыры, мімавольны крык дзіцячай душы. У ім былі крыўда, і расчараванне, і надзея, і горкі папрок да нас, дарослых і разумных людзей.

Два словы толькі было ў гэтым крыку:

- Дзядзька! Шапка!..

Але гэтага не было досыць, каб зразумець, хоць і са спазненнем, усю тую трагедыю, якая адбылася тут, на мосце, у гэты радасны летні дзень.

У хлопчыка на галаве была новая шапка, якую ён надзеў, відаць, першы раз. Добрая шапка, шэрая, каляная. Яна ахапіла не толькі галаву хлопчыка, але ўсё цела і душу. Гэта ж праз яе сёння такі цудоўны дзень, а я гэтага не ведаў. І сонца так шчодра свеціць толькі дзеля таго, каб усе здалёк маглі бачыць шапку, а я не заўважыў яе і зблізку. Адзін, усяго толькі адзін крок заставалася зрабіць - і ўся сустрэча пайшла б прахам. Ці магла чулая дзіцячая душа сцярпець такую несправядлівасць, такое халоднае бяздушша?

І яна не сцярпела...

Я адчуў сябе вельмі вінаватым і кінуўся выпраўляць сваю віну.

- Ах, якая цудоўная ў цябе шапка! - крыкнуў я. - Пакажы, пакажы!

Вочы хлопчыка зноў засвяціліся радасцю.

Я зняў з яго галавы шапку. Яна сапраўды хрусцела, як бляшаная.

Хлопчык глядзеў на мяне ўдзячнымі вачыма, бы на свайго збаўцу.

- Які брыль! І шнурок! І гузікі два! - стараўся я. - А падкладка якая цудоўная! Хто купіў?

- Мамка! - з гордасцю адказаў хлопчык.

Несправядлівасць была выпраўлена.

І мы абодва, зноў шчаслівыя, разышліся кожны сваім шляхам.

**ЯНКА МАЎР**



*"Хто і куды накіроўвае хмурынкі неспадзеўныя?.." (Васіль Зуёнак)*



ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

# РАСЛІНЫ-ДРАПЕЖНІКІ

Ёсць драпежнікі-птушкі, драпежнікі-жывёлы. А ці ёсць яны сярод раслін? Аказваецца, ёсць. Яны не маюць зубоў, кіпцюроў. І ўсё ж здольныя "лавіць" і "паядаць" дробных насякомых.

На тарфяных балотах Беларусі лёгка адшукаць малюсенькую чырванаватую травінку - расянку кругалістую. Яе невялічкія лісцікі-пласцінкі, быццам шчаціннем наторканы, пакрыты чырванаватымі валасінкамі. Па ўсёй акружнасці ліста-пласцінкі валасінкі высокія, нібы частакол (штыкетнік), а ў сярэдзіне - нізкія. Кончыкі валасінак патоўшчаны і падобны на маленькія кнопачкі з галоўкамі. А на галоўках бліскучыя, як раса (таму і назва травінкі "расянка"), ліпкія, як клей, кропелькі вадкасці. Яны і прываблваюць насякомых.

Камар спускаецца на яе, каб адпачыць і падсілкавацца расою. І не заўважае, як раптам прыклеіліся яго лапкі. Б'ецца тады камар, хоча вырвацца, але дарэмна. У дадатак ужо і крылцы прыліпілі. Тым часам пад уздзеяннем раздражнення валасінкі-частакол пачынаюць варушыцца і захопліваюць ахвяру. Лісцік скручваецца і пачынае высмоктваць цела камара. Калі праз два-тры дні пласцінка і валасінкі ліста разгарнуцца, ад камара застанецца толькі яго хіцінавы панцыр. Усё іншае расянка пераварыла.

У завадзях, балоцістых азёрах і сажалках сустракаецца яшчэ адна драпежная расліна - плывунец. Карэнняў у яе няма, таму яна свабодна плавае па вадзе. На сцябле і галінах размешчаны ніткападобныя і пухірыстыя лісці. З дапамогай першых плывунец плавае па вадзе, а другімі (пухірыстымі) ловіць, як і расянка, рачных рачкоў, малькоў дробнай рыбы і іншую жыўнасць.

На балотах амерыканскага кантынента расце венерына мухалоўка. Лісце яе складаюцца з дзвюх лопасцяў, якія могуць зачыняцца. Калі ў такую пастку трапляе вялікая муха, дык яна не расчыняецца на працягу двух-трох тыдняў, пакуль не пераварыць насякомага. Адзін і той жа ліст мухалоўкі толькі два-тры разы ловіць насякомага, а потым адмірае.

Такія ж лісты-пасткі ёсць і ў нашай вадзяной расліны альдраванды, якая ловіць дробных рачкоў.

Чаму ж расліны-драпежнікі паядаюць жывёл? Аказваецца, таму, што яны растуць пераважна на балотах, дзе не хапае пажыўных рэчываў. У дадатак да ўсяго і азот балотнай глебы недаступны для раслін. Вось і кормяцца гэтыя расліны арганічным азотам за кошт насякомых і іншай дробнай жыўнасці.

**А. МАКАРЭВІЧ**

# АДГАДАНКА

*Дапамажы маладому турысту выбрацца з лесу.*



## ЗАЙЧЫКАЎ ХЛЕБ

Васількоў тата працуе леснікам і дамоў вяртаецца позна ўвечары. Вось і сёння загарэліся ў небе зоркі, а таты ўсё няма. І мама затрымалася на працы.

Васілёк сядзіць каля акна, дзе крыху святлей, і пільна ўглядаецца на вуліцу. У пакой напаўзае змрок, а разам з ім закрадваецца ў душу страх.

Стукнулі дзверы, і ў хату зайшоў тата. Васілёк кінуўся яму насустрач, павіс на дужых руках. І адразу прапаў страх, як і не было.

— Адгадай, што я табе прынёс, — кажа тата, апускаючы Васілька на падлогу.

— Што? — загарэліся вочы ў хлопчыка.

— Падарунак ад зайчыка. Іду па лесе, гляджу, ляжыць каля дарогі на пяньку... Зайчыкаў хлеб.

І тата дастаў з сумкі акрайчык хлеба.

— Зайчыкаў хлеб? І яго можна есці?

— Вядома, можна.

Васілёк пакаштаваў — сапраўды, вельмі смачны. Ніколі не еў такога хлеба! Не заўважыў, як і крошкі не засталося ад зайчыкавага падарунка.

— Тата, адкуль ты ведаеш, што хлеб пакінуў зайчык? — спытаў Васілёк.

— А хто ж яшчэ? Зайчык! Бачыў яго ў лесе, каля пянька...

Потым ужо, лежачы ў пасцелі, Васілёк думаў пра зайчыка. Уяўляў, як сядзяць вакол пянька зайчаняткі, чакаюць, пакуль спячэцца хлеб.

З гэтымі думкамі Васілёк і заснуў.

**ВАСІЛЬ ФЕРАНЦ**

